22 жніўня 2014 | № 31 (400)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Майдан і царква
стар. 13

5 ШКУРА НЕЗАБІТАГА МЯДЗВЕДЗЯ



Стартавая фішка беларускай апазіцыі — заблытаць грамадства да немагчымасці, каб потым было на што спісаць чарговыя правалы

4 СЕМ КРОКАЎ ДА ПРАВАВОЙ ДЗЯРЖАВЫ

Беларусь павінна зрабіць не менш як сем крокаў для таго, каб палепшыць сітуацыю з выкананнем правоў чалавека

11 УЗЛЁТ І ПАДЗЕННЕ АДНОЙ КАЛАБАРАЦЫІ

У чарговую гадавіну падаўлення Пражскай вясны ў жніўні 1968 года чэшскія гісторыкі звяртаюць увагу на незвычайны лёс сябраў руху прасавецкай калабарацыі



14–15 ТРЫ ГАДЫ Ў СМАРГОНЯХ

Заканчваліся мае тры смаргонскія гады. Калі глядзіш на іх з аддалі часу, то не скажаш, што яны дадалі шмат духоўнай моцы юнай галаве, сэрцу...

# Зарабіць на Расіі

## Замест «харчовага Кландайку» Беларусь можа атрымаць чарговыя «прадуктовыя войны»



Сяргей ПУЛЬША

Расійскае эмбарга на замежныя прадукты выклікала ажыятаж у Беларусі. Аляксандр Лукашэнка персанальна заклікаў «варушыцца, выкарыстаць гэты момант і зарабіць грошы». Параіў зарабляць не толькі на экспарце беларускага харчавання, але і на так званым дабаўленым коште — «перапрацоўцы» імпарту з наступнай пастаўкай нібыта беларускай прадукцыі ў РФ.

«Трэба мець на ўвазе, што яны зачынілі свой рынак, але мы не бралі абавязацельствы па ўнутраным рынку. Мы можам завозіць сабе прадукцыю з любой кропкі планеты. Трэба загружаць, перапрацоўваць і прадаваць», — загадаў Лукашэнка. «Толькі трэба ўзгадняць з расійцамі, каб нас не папракалі, што мы ідзем у разрэз з іх палітыкай», — дадаў ён.

Сапраўды, рынак для нас адкрыўся вялікі. За адзін тыдзень прадукты ў Расіі значна падаражэлі. Так, па звестках газеты «КоммерсантЪ», у Маскве свініна для мясаперапрацоўчых камбінатаў падаражэла на 6%. Але найбольш адчувальна цэны змяніліся ў Прымор'і, дзе некаторыя віды рыбы падаражэлі на 40%, мяса падаражэла на 26%, імпартуемыя з Кітая яблыкі — амаль на траціну. Рознічныя цэны на прадукты харчавання павялічыліся на 3–60%, рэкорд пабіла Сахалінская вобласць, дзе рост кошту курыных кумпячкоў дасягнуў 60%.

Беларуская сельская гаспадарка зараз, нібыта, на пад'ёме. Афіцыйныя асобы загаварылі пра «Кландайк» і магчымасць нарошчваць пастаўкі прадуктаў да завоблачных вышыняў. Не адстае і «першая асоба дзяржавы». На фоне расійскага харчовага крызісу Аляксандр Рыгоравіч адзначыў, што ўжо калі-калі, а зараз сельгаспадарка Беларусі стане выйсці на самаакупальнасць.

Але на самай справе эфектыўнасць нашай сельскай гаспадаркі — пытанне вялікае.

Што тычыцца малочнай прадукцыі — з гэтым усё зразумела. У 2013 годзе краіна зрабіла (па дадзеных Белстата) 134 тысячы тон сыроў, сама з'ела 40 тысяч тон, экспартавала 99 тысяч тон, з іх у Расію — 96 тысяч тон. Сярод гэтых тонаў 43 тоны — «блакітныя» сыры (якія з квіццю). За першае паўгоддзе гэтага года мы экспартавалі малака і малочных прадуктаў на $743 млн., сметанковага масла на $117,5 млн. Канешне, большасць гэтай прадукцыі сышла ў Расію.

А вось, напрыклад, бульба: экспартны максімум Беларусі на сёння — 250–270 тысяч тон на год. Калі ж казаць пра «маладую» бульбу, то наша сельская гаспадарка забяспечвае толькі 55% патрэбаў унутранага рынку. У першым паўгоддзі мы купілі бульбы за мяжой амаль на 5,4 мільёна долараў! Дарэчы, усёй гародніны ў першым паўгоддзі мы завезлі ў краіну на $74,5 млн., а прадалі за межы — на $85 млн.

Тое ж самае з яблыкамі ды іншай садавінай: доля айчынных прадуктаў гэтай катэгорыі на беларускім рынку складае толькі 11%. Садавіны за паўгады мы набылі на $245,5 млн., а прадалі на экспарт толькі на $72 млн.

Варта зазначыць, што пасля мінулагодняй «афрыканскай чумы свінняў» у нас дастаткова напруга з мясам. Дарэчы, некаторыя «ўспышкі АЧС» назіраюцца і зараз. Пра «напругу» сведчаць не толькі цэннікі ў нашых крамах, але і тое, што мы закупілі мяса за першае паўгоддзе больш, чым прадалі на экспарт, — $296,5 млн. «на закупку» і $263,8 млн. «на продаж».

Так што наўрад ці з такой сельскай гаспадаркай можна будзе «заваліць Расію прадуктамі». Як бачым па паказчыках





**Толькі 50% беларускага ўнутранага рынку забяспечваецца айчыннай сельскагаспрадукцыяй**

экспарту-імпарту, айчынная сельскагаспадарчая прадукцыя (апроч малака і масла, канешне) забяспечвае толькі каля 50% беларускага ўнутранага рынку. Ці можна з такімі вынікамі казаць пра «экспансію ў Расію»?

Таму дзейнічаць прыходзіцца звыклым чынам: ляпіць на замежны тавар лэйблы з лозунгам «Купляй беларускае!».

Пасля ўвядзення забароны на імпартныя харчовыя тавары, расійцы жартавалі аб хуткім з'яўленні ў крамах «беларускіх мідый». І дажартаваліся: у сецыве ўжо з'явіліся фотаздымкі «беларускіх замарожаных крэветак» у краме ў Курску. Беларускае прадпрыемства «Санта Брэмар», якое яшчэ нядаўна распавядала з экранаў тэлевізараў пра тое, як хутка нарвежскі ласось апынаецца ў спажыўца, павысіла экспарт у Расію на 30%.

Увогуле, рыба і рыбапрадукты хутка стануць айчыннай экспартнай фішкай. Наш экспарт вэнджанай фарэлі вырас у 3,6 раза і склаў амаль 5 млн. долараў. Экспарт філе ласося вырас у 4,6 раза, фарэлі свежай — у 3260 (!) разоў.

Зразумела, столькі рыбы ў нас няма, тым больш, што за першае паўгоддзе Беларусь закупіла рыбы на $164,9 млн., а прадала на экспарт толькі на $40,5 млн. Гэта, нагадаю, было яшчэ да таго, як Расія ўвяла «харчовае эмбарга».

У выніку замест «харчовага Кландайку» мы можам атрымаць чарговыя «прадуктовыя войны». Кіраўнік Рассельгаснагляду Сяргей Данкверт ужо паведаміў аб выяўленні спробаў рээкспарту праз тэрыторыю Беларусі забароненых у Расіі гародніны і садавіны.

На працягу некалькіх дзён ведамства зафіксавала пастаўку ў Расію праз Беларусь партый яблыкаў, персікаў, сліў, таматаў, без указання краіны паходжання або з указаннем дазволеных Турцыі, Сербіі, Македоніі і шэрагу афрыканскіх краін. Аднак было ўстаноўлена, што гародніна і садавіна пастаўляліся з Польшчы, Славеніі, Нідэрландаў, Літвы і некаторых іншых краін Еўрасаюза.

«Калі мы будзем мець выяўленні каранцінных аб'ектаў, мы будзем уводзіць абмежаванні на пастаўкі з Беларусі», — сказаў Данкверт. Акрамя таго, Рассельгаснагляд мае намер адсочваць рээкспарт малочнай, мяснойі рыбнай прадукцыі праз Швейцарыю, Казахстан і Фарэрскія выспы.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

### 2,1 мільярда долараў



Столькі, па словах міністра сельскай гаспадаркі Леаніда Зайца, плануе зарабіць Беларусь ад продажу малочных вырабаў на рынку Расіі. Кіраўнік дзяржавы апаратыўна падтрымаў напалеонаўскі план чыноўніка. А вось насельніцтва, калі аналізаваць інтэрнэт-форумы, не так аптымістычна глядзіць у будучыню. На думку шмат каго (і з гэтым згодныя эксперты), нарошчванне экспарту на ўсход адгукнецца дэфіцытам у Беларусі і ўзняццем коштаў. Застаецца спадзявацца, што ўрад зоймецца «харчовымі растваральнікамі» — будзе перапрадаваць заходнія тавары расіянам. На карысць такой версіі сведчыць заява Рассельгаснагляду ад 18 жніўня пра спробу рээкспарту праз Беларусь еўрапейскіх гароднiны і садавіны, забароненых у РФ.

### 9,8 працэнта



На столькі вырастуць кошты ЖКГ з 1 верасня. Неабходнасць росту тарыфаў Міністэрства эканомікі звязвае з ростам намінальнага заробку. Але падаецца, што гэта не апошні рост тарыфаў ЖКГ. На пачатку года беларусы аплачвалі 24,4 працэнта фактычнага сабекошту паслуг ЖКГ. За першае паўгоддзе гэты ўзровень узнялі да 31 працэнта. За год паслугі ЖКГ выраслі на 50 працэнтаў. Па словах прадстаўніка міністэрства, да канца года гэтая планка вырасце яшчэ больш. Не дарма прэм'ер патрабаваў, каб у тэкст Праекту ўказа «Аб мерах па ўдасканаленні работы жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі» абавязкова ўключылі пункт аб адказнасці грамадзян за пратэрміноўку аплаты камуналкі.

### 80 гатункаў піва



Менавіта столькі гатункаў беларускага піва павінна прадавацца ў супермаркетах з плошчай ад 1 тысячы да 2,5 тысячы квадратных метраў. Так патрабуе прыняты Саўмінам дакумент — «Абавязковы асартыментны ліст». Акрамя піва ўстаноўленыя квоты для малака (10 найменняў), цвёрдых сыроў, пельменяў, вараных каўбасных вырабаў (20 найменняў), ёгуртаў і марозіва (30 найменняў) і г.д. Каментуючы сваё рашэнне, урад кажа, што абвясціў бязлітасную вайну імпарту, аднак большасць назіральнікаў лічаць, што гэта фармальная кампанія. Хаця б таму, што нават мацёрыя аматары піва на сваіх форумах не могуць пералічыць 80 гатункаў беларускага піва.

### 610 долараў

Столькі складае ў Беларусі сярэдні заробак. Гэту інфармацыю агучыла Міністэрства працы. Такім чынам, калі верыць лічбам, заробак у РБ за апошні год вырас на 20 працэнтаў. Але рэальная заработная плата ў першай палове гэтага года да аналагічнага леташняга перыяду ўзрасла толькі на 2,9%. Эканамісты скептычна каментуюць навіну. На іх думку, цяперашні рост заробкаў будзе ў значнай ступені з'едзены інфляцыяй (інфляцыя ўжо за сем месяцаў 2014-га перавысіла прагноз, закладзены ўрадам на ўвесь год. За ліпень індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі склаў 111,1 адсотка да снежня 2013-га). Што тычыцца некампетэнтных каментатараў з інтэрнэт-форумаў, то яны здзіўляюцца такой вялікай лічбай сваіх даходаў. Асабліва шакаваныя бюджэтнікі з правінцыі, дзе шмат хто марыць пра заробак у 300 долараў. Дысанас паміж статыстыкай і рэальнымі акладамі дапамагае зразумець вядомы анекдот: «Гэта як сярэдняя тэмпература па бальніцы 36,6 (уключаючы морг і рэанімацыю)».

# Абезгалоўлена грамадзянская супольнасць

Марат ГАРАВЫ

**17 жніўня ў Вільнюсе прынятая заява «Затрыманне Інцігама Аліева — гэта спроба расправы над праваабарончым рухам у Азербайджане».**



Заява была падрыхтаваная адвакатамі і юрыстамі праграмы сеткі Дамоў правоў чалавека «Міжнароднае права для абароны грамадскіх інтарэсаў», зацверджаная падчас працы заключнай сесіі праекту «Імплементацыя дэ-факта міжнародных абавязацельстваў Рэспублікі Беларусь у галіне грамадзянскіх правоў і свабод», падпісаная беларускімі і замежнымі праваабаронцамі.

Інцігам Аліеў — вядомы юрыст, кіраўнік партнёрскай арганізацыі праграмы «Міжнароднае права для абароны грамадскіх інтарэсаў» у Азербайджане, прэзідэнт няўрадавай арганізацыі «Таварыства прававой асветы», эксперт АБСЕ, Савета Еўропы і Амерыканскай асацыяцыі юрыстаў, лаўрэат міжнароднай прэміі «Homo Homini» 2012 года за асабістую мужнасць. Ён быў затрыманы ў Азербайджане за нібыта ўхіленне ад выплаты падаткаў.

Інцігам Аліеў бліскуча выкладаў правы чалавека для суддзяў, адвакатаў і журналістаў Азербайджана і замежжа ў больш чым 100 праграмах, з 2009 года супрацоўнічае з праектам дыстанцыйнага навучання адвакатаў Азербайджана, Беларусі, Малдовы, Украіны і Расіі, з'яўляецца аўтарам 10 законапраектаў, больш 20 кніг і сотняў артыкулаў па праваабарончай тэматыцы. Шмат гадоў Інцігам Аліеў абараняў у судах палітвязняў, прычым для 25 з іх выйграў справы ў Еўрапейскім судзе па правах чалавека. Зараз у гэтым судзе разглядаюцца 40 спраў, падрыхтаваных Інцігамам Аліевым у сувязі з парушэннем выбарчых правоў падчас парламенцкіх выбараў 2010 года.

Падпісанты заявы заклікалі ўсіх неабыякавых людзей далучыцца да шырокай кампаніі падтрымкі і барацьбы за вызваленне Інцігама Аліева, а таксама іншых азербайджанскіх палітвязняў.

У каментары НЧ прэзідэнт Асацыяцыі юрыстаў Азербайджана, адвакат Аннагі Гаджыбейлі паведаміў, што з арыштам Інцігама Аліева і ягоных калегаў абезгалоўлена грамадзянская супольнасць краіны. Апроч таго, арыштаваныя рахункі шматлікіх няўрадавых арганізацый і міжнародных фондаў, што працуюць у Азербайджане, і супраць іх распачаты крымінальныя справы, сказаў спадар Гаджыбейлі. Ён падкрэсліў, што ў краіне не засталося няўрадавых арганізацый, якія б маглі прынцыпова абараняць правы ўласнікаў і каля 100 палітвязняў.

Сам Аннагі Гаджыбейлі, якому таксама пагражае арышт, не збіраецца эміграваць, а будзе працягваць сваю дзейнасць адваката і справу па імплементацыі еўрапейскіх законаў у нацыянальнае заканадаўства.

# Прапануй свой сімвал

**«Асамблея НДА» ў межах кампаніі «Зробім лепш» звяртаецца да грамадства з пытаннем: «Які сімвал аб'ядные беларусаў?» і распачынае акцыю «Сімвал, які яднае краіну».**

Арганізацыя пры інфармацыйнай падтрымцы «Арт Сядзібы» і «Радыё Свабода» прапануе беларусам сумесна прыдумаць і вызначыць сучасны наглядны сімвал, які стане знакам яднання беларусаў у праяўленні сваёй незалежніцкай пазіцыі, будзе прыняты шырокімі пластамі грамадства ды распаўсюджвацца арыгінальным чынам.

Зараз Беларусь знаходзіцца ў складанай геапалітычнай сітуацыі. Становіцца непрадказальным, што ды якім чынам будзе з краінай і намі ў бліжэйшыя гады. Таму наглядны сімвал, які будзе яднаць краіну і беларусаў, патрэбны.

Арганізатары кампаніі звяртаюцца да мастакоў, дызайнераў, актывістаў ды ўсіх неабыякавых беларусаў з заклікам разам вызначыць, якім павінен быць агульны сімвал Беларусі і нацыянальнага адзінства беларусаў.

#### Этапы акцыі «Сімвал, які яднае краіну»

1. Да канца лета на symbalby@gmail.com з пазнакаю «Сімвал краіны» дасылайце вашы дызайны, меркаванні і прапановы — якім вы бачыце візуальны сімвал Беларусі.
2. 8 верасня, у дзень 500-годдзя Бітвы пад Воршай, сімвал Беларусі і нацыянальнага адзінства беларусаў будзе публічна прэзэнтаваны на найбольш папулярных інфармацыйных рэсурсах краіны з удзелам вядомых мастакоў, дызайнераў, палітыкаў, актывістаў і лідараў грамадскай думкі Беларусі.
3. З абраным сімвалам Беларусі будуць выраблены харугвы (палотнішчы), якія можна будзе атрымаць у грамадскіх цэнтрах беларускіх гарадоў ці бясплатна замовіць поштай праз сайт symbal.by.

**artsiadziba.by**

# Без візы

**Актывісты кампаніі «За малы памежны рух» пры падтрымцы БХД падалі заяўкі на правядзенне 21-го пікета ў падтрымку бязвізавага руху з Польшчай і Літвой.**

Ініцыятары звярнуліся да мясцовых уладаў 19-ці прымежных з Польшчай і Літвой гарадоў па дазвол на правядзенне масавых мерапрыемстваў.

Мэтай правядзення пікетавання актывісты пазначылі — «Інфармаванне грамадзян аб сітуацыі з рэалізацыяй пагаднення аб малым памежным руху паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Польшча і збор подпісаў у Міністэрства замежных спраў Беларусі з просьбай паскорыць увядзенне ў дзеянне гэтага пагаднення».

Як адзначаў адзін з ініцыятараў кампаніі «За малы памежны рух!» Зміцер Кухлей: «Мы хацелі б распавесці жыхарам прымежных беларускіх гарадоў наконт пераваг і асаблівасцяў увядзення малога памежнага руху з Польшчай і Літвой. У нашых суседзяў — Украіны і Расіі — жыхары прымежных рэгіёнаў ужо некалькі гадоў карыстаюцца выгодамі бязвізавага руху з краінамі Еўрасаюза. Мы спадзяемся на хуткую рэалізацыю існуючых дамоваў Беларусі з Польшчай і Літвой. Тым болей, што з гэтага года беларускія ўлады актывізавалі перамовы з ЕС наконт візавай лібералізацыі».

Пікеты запланаваны на канец жніўня і пачатак верасня гэтага года. У выпадку дазволу ўладаў акцыі павінны адбыцца ў 19-ці гарадах і раённых цэнтрах, якія ўваходзяць у зону дзеяння дамовы аб Малым памежным руху з Польшчай і Літвой: Брэст, Высокае, Жабінка, Камянец, Маларыта, Пружаны, Гродна, Свіслач, Вялікая Бераставіца, Ваўкавыск, Скідаль, Масты, Астравец, Ашмяны, Воранава, Іўе, Ліда, Шчучын, Смаргонь.

**bchd.info**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Грошы пойдуць на фантастыку!

Сяргей САЛАЎЁЎ



«Ну што, вы ўжо вярнуліся з адпачынку?» — запытаўся ў народа ўрад. «Так!» — нягучна прагучала ў адказ. «Добра. Тады мы ў чарговы раз узнімем кошты», — усміхнуліся чыноўнікі.

Праўда, пакуль што кошты ўзраслі на адну катэгорыю тавару, а канкрэтна — на паліва. З 19 жніўня ў Беларусі на 4% павялічаныя рознічныя цэны на нафтапрадукты. Кошт літра бензіну АІ-95-К5 складае зараз Br10.400 (раней — Br10.000), АІ-92-К5 — Br9.700 (Br9.300), дызельнага паліва К5 — Br10.700 (Br10.300), ДТ-К4 — Br10.500 (Br10.100).

Гэтая падзея — даволі знакавая для Беларусі. Справа не ў тым, што гэта другое падаражанне паліва за год — у мінулым годзе «ежа» для «жалезнага каня» даражэла аж пяць разоў. Справа ў тым, што пасля гэтага падаражання нашыя кошты на паліва сягнулі за сусветны ўзровень. Беларусам упершыню стала больш выгадна запраўляцца нават на расійскіх АЗС. Да прыкладу, калі літр АІ-95 у нас каштуе долар, то ў Расіі ён абыдзецца ў сярэднім на чатыры цэнты танней. Па кошце дызельнага паліва мы абганяем сваіх суседзяў прыкладна на 10 цэнтаў.

На працягу 2014 года расійскае паліва вырасла ў цане прыкладна на 6%, у той час як у Беларусі ўпершыню кошт бензіну павысілі ў пачатку ліпеня на 5%. А вось пасля апошняга падаражання нават маскоўскае паліва стала танней за нашае. За мінулы год наш бензін падаражэў у сярэднім на 20%, а ў Еўропе, наадварот, цэны за 2013 год панізіліся прыкладна на 2,6%, што стала вынікам падзення коштаў на нафту на сусветным рынку.

Як ужо казалася раней, паліва — гэта тое, што адбіваецца на ўсіх коштах, ад чыгуначных перавозак да кошту бохана хлеба. Бо ў кошт любога прадукту закладзеныя выдаткі на ягоную транспарціроўку ад вытворцы да спажыўца. Таму зараз варта чакаць хоць маленькага, хоць малазаўважанага, але падаражання ўсіх прадуктаў у нашых крамах.

Але пры гэтым краіна вырашыла глабальную праблему кантрабанды паліва ў краіны ЕС. Прынамсі, беларускія ўлады адмянілі абмежаванне на продаж паліва для грузавікоў на прымежных АЗС, што вынікае з пастановы Саўміна ад 18 жніўня.

Абмежаванне на запраўку грузавікоў дзейнічала з 2011 года і складала 200 літраў на адзін грузавы транспартны сродак. Яно было ўведзенае на фоне трохразовай дэвальвацыі нацыянальнай валюты з мэтай абмежаваць вываз паліва, што набываецца за беларускія рублі па сацыяльных коштах, і тым самым павялічыць валютную выручку. «Мера сябе вычарпала, таму было прынята рашэнне вярнуцца да ранейшай сістэмы продажаў», — гаворыцца ў афіцыйным каментары да пастановы, якая ўжо ўступіла ў сілу.

Але разам з гэтым станоўчым вынікам урад атрымаў для сябе вельмі шмат праблемаў у кірунку выканання такога сацыяльна-эканамічнага паказчыка, як інфляцыя. Справа ў тым, што за сем месяцаў 2014 года нашая інфляцыя ўжо апярэдзіла першапачатковы гадавы прагноз у 11% і склала 11,1%. З падвышэннем коштаў на паліва мы, пэўна, да канца года перасягнем і «ўдакладнены» ўзровень інфляцыі ў 14,5%. Таму што набраць 3% за чатыры месяцы для нас — лёгка. Шкада толькі, што гэта тычыцца «негатыўнага» паказчыка, а не, напрыклад, росту ВУП.

Куды ж пойдуць заробленыя грошы? Не паверыце, але яны будуць укладзеныя ў развіццё фантастыкі. І гэта не перабольшванне. Мы сапраўды маем намер увасобіць у жыццё адну ідэю, якую агучыў Люк Бесон у фантастычным баевіку «Пяты элемент».

Урад краіны ўхваліў праект канцэпцыі стварэння Беларускай інтэграванай сэрвісна-разліковай сістэмы (БІСРС). «БІСРС дазволіць аб'яднаць розныя ведамасныя інфармацыйныя сістэмы і даць спажыўцу магчымасць атрымання электронных адміністрацыйных, інфармацыйных і аплатных паслуг на ўсёй тэрыторыі Беларусі на аснове адзіных правіл і інструментаў. Асноўным інструментам гэтай сістэмы, якая забяспечвае ўзаемадзеянне фізічных і юрыдычных асоб з дзяржаўнымі інфармацыйнымі сістэмамі і рэсурсамі, будзе беларуская электронная картка (БЭК) і адзіная сістэма ідэнтыфікацыі фізічных і юрыдычных асобаў», — гаворыцца ў паведамленні.

То бок БЭК — гэта аналаг «мультыпашпарту» «Пятага элемента» — шматфункцыянальная мікрапрацэсарная імянная картка. Фактычна гаворка ідзе аб стварэнні гібрыда пашпарта і аплатнай карты на ўсе выпадкі жыцця: для атрымання банкаўскіх паслуг, у мэтах падаткаабкладання, страхавання, электроннага гандлю, аплаты праезду ў грамадскім транспарце, камунальных паслуг і інш.

Куды там розным замежнікам з іх «біяметрычнымі пашпартамі» і адбіткамі пальцаў! Вось у нас сапраўды будзе самая «круцізна»! Канешне, стварэнне такой сістэмы, альбо на скрайні выпадак хаця б аб'яднанне ўсіх існуючых электронных базаў дадзеных, каштуе вельмі дорага. Але на тое, каб жыць, як у «Пятым элеменце», можна і скінуцца. Засталося толькі вынайсці антыгравітацыю, паветраныя таксоўкі і даць беларускае грамадзянства Брусу Уілісу — і мы цалкам можам ратаваць сусвет.

Пакуль нічога не створана, і ратаваць сусвет зарана, мы паспрабуем замірыць хаця б суседзяў. На тыдні стала вядома, што 26 жніўня ў Мінску ўсё ж сустрэнуцца кіраўнікі дзяржаў Мытнага саюза і Украіны з удзелам прадстаўнікоў Еўрапейскага саюза. Такім чынам, у Мінск прыедуць Пуцін, Назарбаеў і Парашэнка, а таксама кіраўнік еўрадыпламатыі Катрын Эштан, еўракамісар па гандлі Карэл дэ Гюхт і намеснік кіраўніка Еўракамісіі Гюнтэр Этынгер.

Гэта — ужо пэўны прарыў беларускай дыпламатыі і высілкаў афіцыйнага Мінска па сваіх «міратворчых ініцыятывах». Не раз пра «перамоўную пляцоўку» (без усялякага пасярэдніцтва) казаў афіцыйны беларускі лідар.

Варта нагадаць, што Беларусь ужо доўгі час знаходзіцца пад санкцыямі ЕС, і дагэтуль прыезд у краіну афіцыйных асобаў ЕС на ўзроўні еўракамісараў быў справай фантастычнаю. Зараз іх будзе аж трое. І гэта выдатны шанец пераканаць еўрапейцаў, што Беларусь — «белая і пухнатая».

Як будзе — і ці будзе наогул — скарыстаны гэты шанец, паглядзім.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Аляксандр Якабсон



**Кіраўнік Беларусі сваім указам вызваліў Аляксандра Якабсона ад пасады старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю «ў сувязі з пераводам на іншую працу».**

Ён прызначаны памочнікам прэзідэнта — галоўным інспектарам па Мінску.

Выкананне абавязкаў старшыні Камітэта дзяржкантролю ўскладзена на першага намесніка старшыні КДК Леаніда Анфімава.

Гэтай «перастаноўкай» Якабсон павінен быць задаволены. Ён узначаліў Камітэт дзяржкантролю 28 снежня 2010 года, і за гэты час КДК зрабіў шмат карыснай працы, якая, варта зазначыць, так і не атрымала нейкага канчатковага выніку. КДК кантраляваў мадэрнізацыю дрэваапрацоўчага комплексу, а з ёй у нас — кепска. Выпраўленне буйнейшых хібаў у будаўнічай галіне таксама было «на кантролі» ў Якабсона, але, нягледзячы на персанальную ўвагу Лукашэнкі, нічога не змянілася. У апошні час адной з асноўных галін у полі зроку КДК была жыллёва-камунальная гаспадарка. І днямі ўрад краіны адправіў на дапрацоўку праект указа «Аб мерах па ўдасканаленні работы жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі», які распрацаваны ўдзельнікамі рабочай групы па праблемных пытаннях у гэтай сферы.

Так што лепш заняцца чым-небудзь карысным, чым безвынікова біцца галавой аб бетонную сцяну.

## Мікалай Дзядок



**Палітзняволены Мікалай Дзядок, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме №4, у суботу, 23 жніўня, адзначыць дзень народзінаў. Яму спаўняецца 26 гадоў, з якіх амаль чатыры гады ён правёў за кратамі.**

Мікалай Дзядок нарадзіўся 23 жніўня 1988 года ў Брагіне на Гомельшчыне. Пасля школы скончыў юрыдычны каледж БДУ. На момант арышту быў студэнтам 2-га курсу завочнага аддзялення праграмы «Паліталогія і еўрапейскія даследаванні» Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.

Быў затрыманы 3 верасня 2010 года як падазраваны па справе аб «нападзе на амбасаду Расійскай Федэрацыі», затым як падазраваны па справе «аб нападзе на аддзяленне «Беларусбанку» 24 верасня 2010 года. Фактычна адбыўшы больш за 20 сутак пад арыштам, Мікалай Дзядок быў канчаткова абвінавачаны ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі каля Генштабу Беларусі па артыкуле 339 ч. 2 — «хуліганства».

27 мая 2011 года ў Заводскім судзе Мінска суддзя Жанна Хваніцкая вынесла Мікалаю Дзядку прысуд — 4,5 гады пазбаўлення волі (г. зв. «справа анархістаў»). Ад 5 снежня 2012 года ўмовы адбыцця пакарання яму былі зменены на больш жорсткія, ён быў пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 Магілёва.

Мікалаю Дзядку можна даслаць віншавальную паштоўку альбо тэлеграму са словамі падтрымкі і цёплымі пажаданнямі на адрас: 212011 г. Магілёў, вул. Крупскай, 99а, турма № 4

## Ігар Варашкевіч



**Легендарны беларускі гурт «Крама» і ягоны лідар Ігар Варашкевіч зноў апынуліся ў нейкім «чорным спісе музыкаў». Ім забаранілі граць на «Ночы кажаноў» у музейным комплексе «Дудуткі».**

Невялікі канцэрт гурта «Крама» быў адным з мерапрыемстваў фестывалю «Ноч кажаноў», які пройдзе 23 жніўня ў музеі народных рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі». Але 18 жніўня стала вядома, што выступ музыкаў адменены. «Мне паведамілі, што дырэктара музея кудысьці выклікалі і сказалі, каб «Крама» не выступала, — паведаміў Варашкевіч. — Усё адбылося па той жа схеме, што падчас першай і другой хвалі забаронаў, без тлумачэння прычын».

Ігар Варашкевіч збянтэжаны такім паваротам падзеяў, паколькі гурт зараз рыхтуецца да прэзентацыі новага альбома. «Цяпер незразумела, як рыхтавацца да нашага вялікага канцэрту, бо можа здарыцца так, што мы вызначым дату, дамовімся з залай, заплацім грошы за арэнду, а выступ могуць лёгка сарваць», — кажа музыка.

# Сем крокаў да прававой дзяржавы

Міхаіл ПАСТУХОЎ,
Сяргей ПУЛЬША

**Калі ўлада ігнаруе ўласную Канстытуцыю і асноўныя міжнародныя дакументы па правах чалавека — гэта кепска. Беларусь павінна зрабіць не менш як сем крокаў для таго, каб палепшыць сітуацыю з выкананнем правоў чалавека.**




## Крок 1: Упаўнаважаны па правах чалавека

Беларусі трэба ўвесці пасаду амбудсмена — упаўнаважанага па правах чалавека. Такая пасада маецца ў многіх краінах свету і амаль ва ўсіх краінах Еўропы.

Упаўнаважаны па правах чалавека, як правіла, абіраецца парламентам. Такі парадак дае яму незалежны ад улады статус. Зазвычай, на пасаду ўпаўнаважанага па правах чалавека абіраецца асоба, якія зарэкамендавала сябе ў сферы праваабарончай дзейнасці — то бок рэальна вядомы і аўтарытэтны праваабаронца.

Зразумела, што ўпаўнаважаны надзяляецца асаблівымі паўнамоцтвамі для абароны правоў грамадзян. Напрыклад, ён мае права запытваць ад дзяржаўных органаў, органаў мясцовага самакіравання, кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый дакументы і матэрыялы, неабходныя для разгляду скаргі; атрымліваць тлумачэнні ад службовых і іншых асоб у час разглядаў скаргаў; выносіць заключэнне па сутнасці скаргі і прапаноўваць аднавіць грамадзяніна ў парушаных правах; звяртацца ў любы суд, у тым ліку Канстытуцыйны, з заявай аб абароне парушаных правоў і свабодаў грамадзяніна.

Наяўнасць такой пасады і абранне на яе прынцыповага праваабаронцы стане эфектыўным сродкам абароны правоў грамадзян. У гэткіх умовах чыноўнікі будуць пралічваць наступствы сваіх дзеянняў. Асабліва важна, каб амбудсмен меў права на зварот у суд: адна справа, калі са скаргай звяртаецца шараговы грамадзянін, і іншая — калі гэта робіць «высокі ўпаўнаважаны». То бок, амбудсмен павінен быць дадатковым бар'ерам свавольству чыноўніцтва.

## Крок 2: Судовая незалежнасць

Нашы суды вельмі залежныя ад структур прэзідэнцкай улады, а суддзі, па сутнасці, з'яўляюцца чыноўнікамі, бо прызначаюцца на пасаду і вызваляюцца ад яе кіраўніком дзяржавы. Па законе ж суддзі павінны быць незалежнымі і бесстароннімі арбітрамі. Як гэта зрабіць?

Не трэба вынаходзіць ровар, варта проста вярнуцца да практыкі абрання суддзяў. Суддзяў вышэйшых судоў, у тым ліку Канстытуцыйнага суда, Вярхоўнага суда, Вышэйшага гаспадарчага суда, прызначае парламент па прапанове органаў судзейскай супольнасці і на працяглы тэрмін — напрыклад, на 10 гадоў. Тады суддзі будуць незалежнымі і ад выканаўчай улады, і ад парламентароў: іх тэрмін судзейства будзе большы, чым тэрмін паўнамоцтваў абраўшых іх парламентароў.

Суддзяў ніжэйшых судоў могуць зацвярджаць мясцовыя прадстаўнічыя органы. У мэтах адбору кваліфікаваных юрыстаў на пасады суддзяў можна ўвесці інстытут залічэння на пасаду суддзі з выпрабавальным тэрмінам (напрыклад, на тры гады).

А каб суды не былі заваленыя, як зараз, адносна простымі і нязначнымі справамі, а таксама для стварэння рэзерву судзейскіх кадраў, можна было б увесці як першасны суд участковага (альбо міравога) суддзю. Калі ёсць участковы міліцыянер, чаму б не быць і ўчастковаму суддзі?

## Крок 3: Канстытуцыйны суд — кожнаму

Зараз грамадзяне Беларусі не маюць права на зварот у Канстытуцыйны суд, калі парушаюцца іх правы і свабоды. Увогуле, у КС маюць права звярнуцца толькі пяць суб'ектаў: кіраўнік дзяржавы, урад, абедзве палаты парламента і Вярхоўны суд (Вышэйшы гаспадарчы суд з гэтага спісу «знік» з 1 студзеня гэтага года на падставе прэзідэнцкага дэкрэта аб ліквідацыі гэтага суда. — Аўт.). Грамадзяне з гэтага працэсу наўпрост выкінутыя.

Чаму «забыліся» пра грамадзян? Бо яны штогод пішуць скаргі на правативорчасць розных органаў, у тым ліку прэзідэнта, парламента, урада. Законы, указы, пастановы часцяком не адпавядаюць Канстытуцыі і міжнародна-прававым абавязацельствам краіны. Значыць, на іх трэба рэагаваць, у тым ліку прызнаваць неканстытуцыйнымі. У выніку — уступаць у канфлікт з «моцнымі гэтага свету».

Відавочна, калі грамадзянам прадаставіць права звяртацца ў КС, то ён будзе абавязаны пачынаць разгляд скаргаў і прымаць рашэнні па сутнасці. У выніку за кароткі час могуць быцьануляваны практычна ўсе нарматыўныя акты, якія парушаюць правы і свабоды грамадзян. Канстытуцыйныя скаргі непазбежна будуць дапаўняцца скаргамі на незаконныя дзеянні альбо рашэнні службовых асоб. То бок, галовы паляцяць — парушальнікі законнасці будуць знятыя са сваіх пасадаў.

## Крок 4: Спецсуды па адміністрацыйных спрэчках

Не-не, гэта не «тройкі» НКУС, як маглі падумаць некаторыя. Гаворка ідзе пра стварэнне так званай «адміністрацыйнай юстыцыі», якая будзе разглядаць выключна скаргі грамадзян на дзеянні органаў кіравання і адпаведных службовых асоб.

Зараз падобныя скаргі разглядаюцца судамі толькі ў тых выпадках, калі пра гэта наўпрост сказана ў заканадаўстве (напрыклад, на парушэнне працоўных правоў). У астатніх выпадках грамадзяне павінны скардзіцца ў парадку падпарадкаванасці. То бок спачатку трэба паскардзіцца кіраўніцтву, потым — вышэйшаму кіраўніцтву, а ўжо калі адмовіў «самы высокі кіраўнік» — ісці ў суд. Але што рабіць, калі «высокі кіраўнік» — гэта кіраўнік краіны? Каб гэта дзейнічала на практыцы, то Аляксандр Рыгоравіч толькі б і рабіў, што пісаў адказы на скаргі.

Для падачы скаргаў па такіх «адміністрацыйных спрэчках» і павінна быць спецыяльная падсістэма судоў. На першапачатковым этапе гэта могуць быць «спецсуддзі» ў складзе агульных судоў, пазней — спецыялізаваныя адміністрацыйныя суды.

## Крок 5: Гуманізацыя заканадаўства

Беларусь ужо колькі год займае другое месца па колькасці зняволеных у Еўропе. Нам столькі «зэкаў» непатрэбна, і іх, скажам шчыра, нават складана пракарміць. Таму заканадаўства павінна быць перагледжана і прыведзена ў адпаведнасць з міжнародна-прававымі стандартамі.

У першую чаргу падлягае перагляду Крымінальны кодэкс, у якім маецца шэраг не тое што антыдэмакратычных, але і абсалютна палітызаваных і непатрэбных нормаў. Адных «палітычных» артыкулаў у ім аж сем, пачынаючы ад «дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі» і заканчваючы «парушэннем парадку правядзення масавага мерапрыемства».

Звяртае на сябе ўвагу палажэнне аб «канфіскацыі маёмасці». Хоць яе аб'ектам з'яўляецца маёмасць асуджанага, але на практыцы гэта пакаранне распаўсюджваецца на маёмасць усіх членаў сям'і, што нельга прызнаць апраўданым з пазіцыі правоў чалавека.

Крымінальна-працэсуальнае заканадаўства таксама ў значнай меры не адпавядае міжнародным і еўрапейскім стандартам. Раздзел 49 КПК «Вытворчасць па крымінальных справах у дачыненні да асобных катэгорый асоб» уступае ў супярэчнасць з прынцыпам роўнасці грамадзян перад законам. Згодна з нормамі гэтага раздзела, прыцягненне да крымінальнай адказнасці дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі, суддзяў, пракурораў, следчых і некаторых іншых катэгорый асоб дапускаецца толькі са згоды прэзідэнта.

Трэба нешта зрабіць і з папярэднім расследаваннем, якое зараз носіць абвінаваўчы характар. Глядзіце самі: санкцыю на правядзенне следчых дзеянняў і на заключэнне падазраванага пад варту дае пракурор. Ён жа ажыццяўляе нагляд за законнасцю следства і падтрымлівае бок абвінавачвання ў судзе. Ці можа ён прызнаць нейкія следчыя дзеянні незаконнымі, калі сам даў на іх санкцыю, і яму гэтыя ж дзеянні ў судзе абараняць?

Між тым, у краінахсябрах Рады Еўропы санкцыю на следства дае незалежны суд, што з'яўляецца дадатковай гарантыяй законнасці пры расследаванні.

Малая эфектыўнасць касацыйных судовых інстанцый, дзе істотна абмежаваныя магчымасці абароны. Значна завышаныя паўнамоцтвы Вярхоўнага суда. Калі ён выступае ў якасці першай судовай інстанцыі, няма ж з'яўляецца і апошняй — падаць касацыйную скаргу ўжо няма куды.

Адміністрацыйная вытворчасць — увогуле жах. Права накладаць адміністрацыйныя спагнанні маюць каля 50 суб'ектаў дзяржавы. Нават пры судовым разглядзе спраў не забяспечваецца ўсебаковае, поўнае і аб'ектыўнае даследаванне, а магчымасці абароны мінімальная — пастанова суддзі па справе уступае ў сілу неадкладна пасля яго абвяшчэння. Трэба зрабіць адміністрацыйны працэс больш адкрытым, узмацніўшы гарантыі абароны правоў грамадзян, у тым ліку замацаваць права абскарджання рашэння суддзі.

## Крок 6: Адмена смяротнага пакарання

Падабаецца камусьці ці не, але такое рашэнне павінна быць прынята. Не толькі з «маральнага» пункту гледжання.

Па-першае, пакуль у краіне не будзе адменена смяротнае пакаранне, нельга казаць аб павазе да правоў чалавека. Права на жыццё — асноўнае чалавечае права, дадзенае па факту нараджэння, і ніхто не можа яго адымаць.

Па-другое, адмена смяротнага пакарання, ці, у крайнім выпадку, увядзенне мараторыя на яго прымяненне, з'яўляецца адной з умоваў прыёму краіны ў Савет Еўропы. А без гэтага немагчымы доступ грамадзянаў Беларусі да еўрапейскай сістэмы правасуддзя.

## Крок 7: Савет Еўропы

Калі Беларусь прызнае асноўныя правы і свабоды грамадзян, у тым ліку права на жыццё, мы лёгка ўступім у гэтую агульнаеўрапейскую арганізацыю. Галоўная карысць ад яе ў тым, што ў грамадзян будзе магчымасць звяртацца са скаргай у Еўрапейскі суд па правах чалавека (ЕСПЧ) у Страсбургу.

Рашэнні ЕСПЧ, у адрозненне ад пастановаў, напрыклад, Камітэта па правах чалавека ААН, з'яўляюцца абавязковымі для дзяржавы. Яны прымушаюць дзяржаву перагледжзець сваё заканадаўства, а таксама змяніць стаўленне да правоў чалавека.

Вядома, пералік мер па паляпшэнні сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі можна працягнуць. Так і варта паступіць пры абмеркаванні гэтай рубрыкі.

*На гэтым завяршаецца цыкл артыкулаў доктара юрыдычных навук, прафесара, заслужанага юрыста Рэспублікі Беларусь Міхаіла Пастухова. Вы яшчэ маеце час, каб задаць пытанні Міхаілу Пастухову ў лістах на адрас рэдакцыі альбо ў каментарах пад артыкулам на сайце novychas.info. Усе пытанні атрымаюць адказы ў заключнай гутарцы рэдакцыі з Міхаілам Іванавічам.*



photo.bymedia.net

# Шкура незабітага мядзведзя

Сяргей ПУЛЬША

**Чым бліжэй прэзідэнцкія выбары, тым больш у дэмакратычных колах рознага роду «фэйкаў». Падаецца, гэта «стартавая фішка» беларускай апазіцыі — заблытаць грамадства да немагчымасці, каб потым было на што спісаць чарговыя правалы.**

### Кангрэс ці кангрэсы?

Перамовы пра вылучэнне «адзінага кандыдата» ад апазіцыі на прэзідэнцкія выбары 2015-га года цягнуцца ўжо доўга. Згода дасягнутая ў тым, што вылучаць яго павінен чарговы Кангрэс дэмакратычных сілаў. Але пакуль што спрэчкі ідуць пра прадстаўніцтва дэмакратаў у Кангрэсе. На сённяшні момант усім замінае пазіцыя кампаніі «Гавары праўду!», якая настойвае на тым, каб удзел у Кангрэсе мелі магчымасць прымаць тыя, хто збярэ 150 подпісаў звычайных грамадзян за вылучэнне на гэтае мерапрыемства. Астатнія «перамоўшчыкі» не пагаджаюцца, бо не маюць ніякага ўяўлення пра тое, як праверыць сапраўднасць гэтых подпісаў.

А тым часам лідары левых партый і аргкамітэтаў па стварэнні такіх партый паведамілі, што ў кастрычніку мае прайсці Кангрэс левых сілаў Беларусі. На ім плануецца прыняць «Платформу левых сілаў да выбараў прэзідэнта ў 2015 годзе» і «Пасланне левых партый беларускаму народу». Левыя выказваюць надзею, што гэтая платформа будзе ўзятая за аснову і стане праграмным дакументам (цалкам або часткова) магчымага адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі. Свайго ж кандыдата ў прэзідэнты ці ў «адзіныя» левыя пакуль вылучаць не плануюць, бо, як зазначыў лідар Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін, гэта б «разбурыла працэс кансалідацыі апазіцыі і абранне адзінага кандыдата».

Але ўльтыматум ужо выстаўлены. Па словах каардынатара аргкамітэта па стварэнні Беларускай партыі працоўных Аляксандра Бухвостава, дэлегаты ад левых на КДС падтрымаюць таго кандыдата, які пагодзіцца з платформай левых. А калі не пагодзіцца, адпаведна, не падтрымаюць.

Яшчэ адзін Кангрэс нам абяцае беларуская інтэлігенцыя. Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алег Трусаў і ягоная намесніца Алена Анісім у «Народнай волі» ад 8 жніўня прапанавалі стварыць аргкамітэт па правядзенні «Усебеларускага кангрэса за незалежнасць Беларусі». Дзеля захавання беларускай незалежнасці яны прапануюць правесці «шырокі дыялог паміж наменклатурай рознага ўзроўню, прадпрымальнікамі, інтэлектуаламі, фермерамі, прафсаюзамі і грамадзянскай супольнасцю». Што дасць такі кангрэс і такое абмеркаванне — не зусім зразумела, але яго плануюць правесці да канца года.

Такім чынам, у краіне замест аднаго КДС з дакладна вызначанай мэтай — абранне «адзінага кандыдата ад апазіцыі», — будуць тры Кангрэсы з «паралельнымі» мэтамі.

### Папярод «адзінага» ў пекла

Тым часам ужо пачаўся «парад кандыдатаў». Пра гатоўнасць вылучацца на пасаду прэзідэнта заявілі як мінімум двое: генерал, былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Валер Фралоў і намесніца старшыні ТБМ Алена Анісім.

Валер Фралоў традыцыйна разлічвае на «адказнасць за краіну» сябраў-вайскоўцаў. Але, нават калі за яго «падпішацца» ўсё беларускае войска — ад галоўнакамандуючага да шарагоўца, — гэта толькі 60 000 подпісаў з неабходных для рэгістрацыі кандыдатам 100 000. Астатнія 40000 маглі б назбіраць ягоныя сябры з Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), якая ўсё ніяк не можа ачуняць ад кіраўніцтва мінулага лідара Анатоля Ляўковіча. Але, пагадзіцеся, і першае, і другое — з галіны фантастыкі.



**Пакуль што ў дэмсілаў яшчэ ёсць час, каб дамовіцца міжсобку, колькі будзе «кангрэсаў», колькі «адзіных» і якім будзе план прэзідэнцкіх выбараў**

Алена Анісім разлічвае на абстрактныя «нацыянальныя сілы». Сама Анісім адзначыла, што ТБМ — не палітычная арганізацыя, і ў выбарах удзелу не прымае, а значыць, разлічваць на тое, што сябры гэтай арганізацыі будуць збіраць подпісы за яе вылучэнне, не вельмі рэальна. Зазначалася, што яе гатовая падтрымаць Рада беларускай інтэлігенцыі. Аднак гэтая Рада ўсім ранейшым кандыдатам, «адзіным» ці «не адзіным», аказвала выключна маральную падтрымку.

Да таго ж, «раскруціць з нуля» кандыдата на прэзідэнта — велізарная праца. Калі ў Фралова з вядомасцю лепш (яго хаця б спачатку ведалі, а потым забыліся), то ў Анісім з гэтым праблемы.

### Куды падзеліся «буйныя»?

Магчыма, «самавылучэнне» такіх малавядомых асобаў разлічанае на тое, каб «застаўбіць» пляцоўку» ў якасці магчымага «адзінага». А там, чым чорт не жартуе, можа, і нешта атрымаецца? Тым больш, што зараз апазіцыя як ніколі здольная прапусціць «шэрую мыш» праз сіта ўзаемных інтарэсаў.

Гэта звязана з тым, што большасць з раскручаных лідараў апазіцыі патрапілі пад крымінальныя справы ў 2010 годзе. Вызваленне ад адбыцця пакарання, напрыклад, Уладзіміра Някляева не азначае, што з яго знятая судзімасць. А нязнятая судзімасць дае фармальныя падставы не зарэгістраваць яго кандыдатам у прэзідэнты. Тое ж тычыцца актыву Беларускай хрысціянскай дэмакратыі — Паўла Севярынца і Віталя Рымашэўскага. Кандыдаты на прэзідэнта Алесь Міхалевіч і Андрэй Саннікаў пакінулі Беларусь, а Мікалай Статкевіч дагэтуль знаходзіцца ў вязніцы.

Больш-менш прахаднымі на «адзінага» застаюцца старыя супернікі — Анатоль Лябедзька і лідар «Руху «за Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч. Нагадаем, што ў 2006 годзе на аналагічным Кангрэсе Мілінкевіч на выбарах «адзінага» перамог Лябедзьку нязначнай колькасцю ў 8 галасоў. Але Лябедзька пакуль што выступае «за сумленныя і справядлівыя выбары», і наконт сваёй кандыдатуры нічога не кажа. Тое ж самае робіць і Мілінкевіч. «Калі Кангрэс мне цвёрда скажа: «Ты мусіш ісці таму і таму», то я гэта, безумоўна, выканаю», — сказаў палітык у інтэрв'ю «Еўрарадыё».

Карацей, за год да пачатку перадвыбарчай кампаніі апазіцыя яшчэ не ведае, з кім яна будзе працаваць.

### Без выбару

Пры гэтым усе разумеюць, што выбараў у Беларусі няма, а выніковая лічба па галасаванні малюецца ў Цэнтрвыбаркаме. У такіх варунках выстаўляй «адзінага», не выстаўляй — усё адно. Таму апазіцыя звыкла займаецца не «пераможнымі сцэнарамі», а «скарыстаннем выбараў як кампаніі па данясенні да насельніцтва альтэрнатыўнага бачання развіцця Беларусі» ды «працай па недапушчэнні легітымізацыі ўлады». Кампанія «Гавары праўду!» нават выпрацавала стратэгію пад умоўнай назвай «Не ХТО замест Лукашэнкі, а ШТО замест Лукашэнкі». Маўляў, не мае значэння, хто прыйдзе на замену першаму, і пакуль што адзінаму кіраўніку краіны: горш ужо не будзе. Галоўнае, каб патлумачыць шляхі развіцця Беларусі без Аляксандра Рыгоравіча.

Магчыма, такая стратэгія і мае шанец на жыццё, аднак падчас прэзідэнцкай кампаніі гэтае «ШТО» павінна ператварыцца ў «ХТО». Бо абіраюцца не стратэгіі, а канкрэтная асоба на канкрэтную пасаду. А з гэтым «хто» ў нас пакуль што праблемы.

### Байкот?

Яшчэ адзін сцэнар прэзідэнцкай кампаніі прапанаваў Мікалай Статкевіч. На ягоную думку, асаблівасцю кампаніі 2015 года будзе тое, што яна пройдзе ва ўмовах рэальнай пагрозы анексіі з боку Расіі. «У такой сітуацыі апазіцыі, магчыма, прыйдзецца адмовіцца ад барацьбы за перамогу падчас выбараў», — мяркуе Статкевіч.

Таму трэба думаць пра тое, каб нанесці «непапраўны ўрон» афіцыйнаму Мінску на міжнароднай арэне. З гэтай мэтай можна вылучыць кандыдатам у прэзідэнты заведама «непрахаднога» апазіцыйнага лідара, які мае палітычную судзімасць ці нават знаходзіцца ў турме. У выпадку прагназуемай адмовы ўлады зарэгістраваць такога кандыдата, апазіцыя магла б разгарнуць акцыі пратэсту падчас агітацыйнай кампаніі (не чакаючы дня галасавання), а затым аб'явіць пра байкот выбараў і пра непрызнанне самога факта выбараў. Гэта, на думку Статкевіча, дазволіць апазіцыі захаваць свой аўтарытэт і нанесці рэжыму маральныя і палітычны ўрон.

Дзіўна, канешне, што за байкот выбараў выступіў палітык, які раней быў заўсёды супраць байкоту. Але калі выбараў няма, то і сэнсу ў іх удзельнічаць сапраўды няма.

### А час ідзе...

За год да пачатку прэзідэнцкай кампаніі апазіцыя не мае не тое што «адзінага» кандыдата ў прэзідэнты, але і нейкага ўцямнага і зразумелага сцэнару правядзення перадвыбарчай кампаніі. Больш за тое, амаль усе сцэнары (за выключэннем, бадай што, неакрэсленай працэдуры выбараў «адзінага кандыдата ад дэмсілаў») не разлічаныя на перамогу ў гэтай кампаніі.

А, як раней казаў той жа Статкевіч, без разліку на перамогу цяжка ўвогуле праводзіць перадвыбарчую кампанію. Губляецца галоўнае — стымул каманды.

Пакуль што ў дэмсілаў яшчэ ёсць час, каб дамовіцца міжсобку, колькі будзе «кангрэсаў», колькі «адзіных» і якім будзе план прэзідэнцкіх выбараў. Але гэтага часу застаецца ўсё меней. Як сведчыць практыка, абранне «адзінага» выклікае альбо раскол, альбо «самаўхіленне» ад працы тых арганізацый, якія не згодныя з ім працаваць. Таму і прыходзіцца трэба хутчэй, каб унутраныя разборкі не перашкаджалі прэзідэнцкай кампаніі.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# Чаго няма, таго і не будзе

**Беларусаў ужо абвінавацілі ў спробах рээкспарту ў Расію еўрапейскіх гароднiны і садавіны. Расійскія крыніцы сцвярджаюць, што асобныя краіны ЕС пачалі адпраўляць у Беларусь прадукцыю, якая падаецца вырабленай у Турцыі ці Сербіі, ці нават у Зімбабвэ, а насамрэч вырашчаная ў Грэцыі ці Нідэрландах.**



Шэф Расельгаснагляду Сяргей Данкверт патлумачыў, што ягоныя людзі падчас кантрольных праверак выявілі, што садавіна і гародніна завозяцца з Польшчы, Нідэрландаў, Літвы і іншых еўрапейскіх краін, а не з Беларусі. Пры гэтым асобныя партыі прадукцыі не маюць дазваляючых фітасанітарных беларускіх папер.

Расіяне быццам бы «актыўна маніторачь сітуацыю», каб пазбавіць беларускіх негацыянтаў магчымасці дамовіцца з так званымі краінамі «прыкрыцця», якія спрабуюць прадаць у РФ еўрапейскую садавіну пад неўрапейскімі наклейкамі. У кожным з такіх выпадкаў, расейцы збіраюцца абмяжоўваць пастаўкі з Беларусі.

Трэба адзначыць, што браты-саюзнікі даўно вінавацяць беларусаў у «шэрым рээкспарце» ў Расію замежнай паводле паходжання мясной і малочнай прадукцыі. Ці расійскіх нафтапрадуктах у «астатні свет», як гэта было ў 2010 годзе з растваральнікамі і распушчальнікамі. Навар аказаўся неслабы — некалькі мільярдаў зусім не беларускіх рублікаў.

Старая традыцыя ў супрацоўніцтве надзейных сябрукоў, пачатак якой датуецца 1995 годам, стварэннем гандлёва-экспазіцыйнага прадпрыемства «Гандальэкспа» (быццам, каб забяспечыць насельніцтва шырспажывам, па гэтай прычыне яно было вызвалена ад падаткаў і мытаў). Але «Гандальэкспа» на самай справе стала звычайнай мытнай «дзіркай», праз якую Лукашэнку, па меркаванні экспертаў, трапіла 4,5 мільярда долараў чыстых прыбыткаў.

Ужо цяжка пералічыць, колькі было гандлёвых войнаў, якія Старэйшы Брат абвяшчаў Лукашэнку праз свайго галоўнага санітарнага ўрача спадара Анішчанку. То мясныя, то малочныя. У самыя напружаныя моманты, у сезон, калі на перапрацоўчыя прадпрыемствы паступала «вялікае малако» з фермаў.

Што ж, на вайне як на вайне. Дзесьці страляюць у людзей, узрываюць іх хаты, а тут на транзітнай тэрыторыі ставяць жалезную заслону польскім яблыкам ды грэцкім алівам.

У нейкім сэнсе можна сказаць, што яблыкі ў Расіі ёсць, і адначасова іх няма. Верагодна, садоў там не меней, чым у Польшчы, а магчыма нават болей, чым гэта патрэбна. Прыкладам, ворнай зямлі ў Расіі болей, чым патрабуецца для пракорму 140 мільёнаў чалавек насельніцтва. Але дзе тыя расійскія яблыкі, на якой стадыі — ад выспявання да продажу — яны знікаюць? Вось і атрымліваецца, што ўсё ёсць — і нічога няма.

Увогуле, не наша гэта справа, у нас свой урад. У Беларусі таксам ёсць яблыкі. Шмат іншай садавіны і гародніны. І вырошчваюць іх амаль ля кожнай хаты, на кожным лецішчы. Але такога, амаль індустрыяльна-таварнага садаводства, як у Польшчы, няма. Таму замяніць Польшчу ў якасці галоўнага імпарцёра садавіны да сталу «дарагім расіянам» Беларусь не здольная.

Чаго няма, таго няма. Не толькі садавіны, але і мяса, і малака. У мінулым годзе Беларусь прадала ў Расію 307,8 тысячы тон мяса і мясапрадуктаў, што склала 1/3 ад выраблены у краіне. Як павялічыць фізічныя і вартасныя памеры паставак, калі ўлічыць, што вытворчасць жывёлагадоўлі памяншаецца? Калі ўлічыць, што летась экспарт мяса падвысілі на 10%? Можна прадаць у Расію ўсе так званыя далікатэсы, а ўласнаму насельніцтву пакінуць малаякаснае мяса, «умоўна ядомыя» мяса-раслінныя сурагаты. Але лепш, не баючыся абвінавачванняў у «пераанаклеечным бізнэсе» беларускае мяса прадаваць Расіі, а польскае купляць для свайго спажыўца.

Да таго ж апошнім часам Беларусь пастаўляла ў Расію прыкладна 100 тысяч тон свініны і сама імпартавала каля 80 тысяч тон. Менавіта з Польшчы. Можна перагледзіць меню ў бок павялічэння порцый. Можна з гэтай нагоды пасміхацца, як гэта робяць расейцы, але лепш пагадзіцца з простым фактам, што мяснік робіць свае кілбасы з пакупнога мяса. Ніхто, прыкладам, не здзіўляецца, калі купляе англійскі чай, хоць гэта расліна там не расце.

Гэта ж факт, што ў беларускіх вадаёмах няма марской рыбы, малюскаў і ракападобных. Але (паводле афіцыйных дадзеных) палова «рыбы і рыбапрадуктаў» рэалізуецца беларускімі брэндамі. Вось вам і беларускія амары, і беларускія малюскі.

Што ёсць, тое і ёсць. Чаго няма, таго і не будзе.

# Медыцына: бег па замкнёным коле

Генадзь ШЭРШАНЬ

**Пра тое, што ў нашай краіне ёсць медыцынскія работнікі, узгадваюць раз на год, у трэцюю нядзелю чэрвеня, калі лекары адзначаюць сваё прафесійнае свята.**



Першыя палосы цэнтральных газет, інфармацыйныя перадачы радыё і тэлебачання стракацяць узнёслымі выразамі пра «самую гуманную прафесію». Яшчэ ў гэты дзень звычайна нагадваюць пра нядаўнія дасягненні нашых хірургаў у перасадцы органаў, якія адразу ж былі скіраваныя на заробкі валюты. Хаця, па вялікім рахунку, ганарыцца тут няма чым. Бо падобныя аперацыі ў краінах ЕС і нават краінах Лацінскай Амерыкі выконвалі ўжо больш за 30 гадоў таму.

Абавязкова скажуць, якімі павінны быць лекары: добразычлівымі, самаадданымі, уважлівымі, спагадлівымі, і г.д. Як быццам не такім ж павінны быць людзі ўсіх іншых прафесій, асабліва чыноўнікі самых розных рангаў. Але мець падобныя якасці лекараў абавязваюць так навязліва і зацята, што шмат хто пачынае бачыць у іх галоўныя прафесійныя праявы. Пра гэта сведчаць шматлікія пісьмовыя падзякі лекарам. Да прыкладу: «Хачу падзякаваць... за добрае стаўленне і кампетэнтную медычную дапамогу. Каб усе дактары і медработнікі былі такімі спагадлівымі, менш бы людзі і хварэлі» («НН» 16.04.2014)

Між іншым, у кожнага лекара ёсць два аўтарытэты — сярод пацыентаў і сярод калегаў. Аднак абодва гэтыя аўтарытэты далёка не заўсёды супадаюць. Можна пагадзіцца з высновамі аўтара гэтай падзякі, калі слова «спагадлівы» замяніць на «ўважлівы». Бо сапраўды — 80% памылак у дыягностыцы і лячэнні абумоўлены няўважлівасцю лекараў.

А што або хто прымушае лекараў губляць уважлівасць у час сваёй «вельмі адказнай працы» і памыляцца? Зайдзіце ў любую паліклініку ці нават амбулаторыю, паглядзіце, што там творыцца, і вы адразу зразумееце, у чым справа. На прыёме ўвесь час нехта адцягвае ўвагу лекара, а ён засяроджаны на фіксацыі наведвама чаго, і яму няма калі ўдзяліць належную ўвагу пацыенту. Не на пустым жа месцы нарадзіўся такі анекдот: «Сучасная паліклініка — гэта такая ўстанова, у якой пацыенты перашкаджаюць лекарам працаваць з паперамі».

Ужо ў гады майго студэнцтва (1960-я) лекары былі заклапочаныя тым, што з-за пісаніны не могуць аддаваць належную ўвагу хворым. Потым, у выніку мадэрнізацыі справаводства, гэтая праблема была крыху вырашана. Зараз жа адбываецца тое ж самае, што ўжо было ў 1960-я гады.

Прычына даўно ляжыць на відавоку і добра бачная ўсім без выключэння. «Дачка (10 гадоў) зламала нагу... — паведамляе чытач «Нашай Нівы» (09.04.2014). — Наклалі гіпс на 3–4 тыдні... Але аказалася, што трэба кожныя 6 дзён ездзіць да траўматолага, каб... падаўжаць даведку аб вызваленні ад школы. Хоць гіпс раней не здымуць... І вось дылема: або цягацца з малой у наблізкую паліклініку... без аніякага практычнага сэнсу, або плюнуць... Зайшлі да загадчыцы: яна кажа, што такое правіла, і траўматолаг не мае права выдаць адну даведку на ўвесь час хваробы. Але тады чаго чыноўнікі з аховы здароўя наракаюць, што людзі занадта часта звяртаюцца ў паліклініку?» — слушна пытаецца чытач.

Прачытаў гэта, і адразу ўспомніў, як у першы год працы пасля атрымання дыплома да мяне з раёна прыехалі з праверкай два лекары, якія былі не намнога старэйшыя за мяне, амаль аднагодкі. У службовых паперах яны выявілі парушэнне: рабочаму саўгаса, хвораму фалікулярнай ангінай з абвастрэннем язвеннай хваробы страўніка, я выдаў бюлетэнь на 6 дзён (меў права — толькі на 3 дні). З маім тлумачэннем, што ганяць хворага па бездарожжы сюды-туды па 12 кіламетраў праз два дні на трэці ў той час, як яму трэба ляжаць у ложку, як мінімум, тыдзень (так нас вучылі ў інстытуце), гэта не лячэнне, а здзек і дадатковая рызыка развіцця ў яго ўскладненняў гэтых хвароб, правяраючыя пагадзіліся. Але «за перавышэнне паўнамоцтваў» я ўсё-такі атрымаў вымову.

У сваім бязмерным жаданні ўсё трымаць пад кантролем чыноўнікі ад медыцыны выдаюць супярэчлівыя клінічнай навуцы і не адпавядаючыя здароваму сэнсу пастановы і распараджэнні, якія робяць працу іх выканаўцаў бессэнсоўнай і нават шкоднай. Падобныя пастановы і распараджэнні — галоўныя крыніцы непаразуменняў, канфліктаў і скандалаў паміж лекарам і пацыентамі, абцяжарваюць працу першым і ўскладняюць жыццё другім. Аднак відавочна, што ў гэтай сферы дзейнасці лекараў больш чым за 40 гадоў нічога не змянілася.

У часы перабудовы ў СССР пачаліся размовы пра больш сучасную і перспектыўную страхавую медыцыну, перавагамі якой ужо карысталіся ў большасці еўрапейскіх краінаў. А ў 1990-я гады ў Беларусі пра перавагі страхавой медыцыны ўжо гаварылі на поўны голас. Аднак ужо пасля 1994 года пра гэта забыліся. А зараз пра страхавую медыцыну ў нашай сацыяльна арыентаванай дзяржаве ўвогуле стараюцца не ўспамінаць.

Падобна, што надзеі лекараў на паляпшэнне ўмоў сваёй працы і павелічэнне сваіх мізэрных заробкаў у бліжэйшы час будуць марнымі. Што недахоп лекараў у сістэме аховы здароўя будзе толькі павялічвацца (калі ў 1970-я вострым недахоп лекараў адчуваўся толькі ў раёнах, то зараз ён адчуваецца нават у сталіцы). Што лекары па-ранейшаму будуць «уцякаць з прафесіі». Калі ў 1970-я, каб пералічыць усіх «здраднікаў прафесіі» за некалькі гадоў запар, хапала пальцаў адной рукі, то ў нашы дні штогод 1100–1200 лекараў сыходзяць з сістэмы аховы здароўя, а яшчэ 140–160 выязджаюць за мяжу. І гэта адбываецца пры штогадовых устойлівых параўнальна высокіх конкурсах для паступлення ва ўсе медыцынскія ўніверсітэты краіны. Што, як і раней, лекары будуць вымушаны ва ўзаемаадносінах з пацыентамі больш увагі аддаваць не пацыентам, а паперам. Бо ў адваротным выпадку будзе сабе даражэй.

Усё гэта толькі сведчыць пра стагнацыю ў дзейнасці сучаснай сістэмы аховы здароўя.

Самае ганебнае, прыкрае і крыўднае, што ўсе ўзнёслыя словы лекарам, прызапашаныя да іхняга прафесійнага свята, начыста забываюцца ўсімі, хто іх пісаў і казаў, адразу, ужо назаўтра, пасля свята. Да наступнага Дня медыка.

# TV

## 25 ЖНІЎНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Дзелавое жыццё.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**08.05** Дзелавое жыццё.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Серыял «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**11.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Меладрама «Павуцінка бабінага лета».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Біяграфічная драма «Брэжнеў». 1-я серыя.
**16.30** Нашы.
**16.30** Камедыйная меладрама «Іронія лёсу. Працяг».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.55** Навіны.
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Баявік «Тры ікс-2: Новы ўзровень».

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Нюхач». Шматсерыйны фільм.
**23.00** Прэм'ера «Першая сусветная».
**00.00** Мастацкі фільм «Тры жанчыны».
**02.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.45** «Чыстая праца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** Музычны фестываль.
**15.40** «Уявіце сабе».
**16.20** Іншая краіна.
**16.20** Наша справа.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Мастацкі фільм «Загадана знішчыць» (ЗША, 1996 г.).
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Сашка».
**10.00** Тэлебарометр.
**10.30** Мастацкі фільм «Асліная шкура».
**12.00** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня» Кулінарны майстар-клас (Расія).
**12.35** Мастацкі фільм «Цягнік па-за раскладам».
**14.15** Мастацкі фільм «Двухсотгадовы чалавек».
**16.40** Серыял «Сашка».
**17.50** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**18.50** Серыял «Універ».
**19.50** Серыял «Інтэрны».
**20.55** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**22.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар».
**23.50** Хачу ў тэлевізар!
**23.55** Перазагрузка.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Аўтамабіль «Волга».
**07.55** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** Дзіцячы фільм. «Што ў Сенькі было».
**09.15** «Размаўляем па-беларуску».
**09.25** «Участак лейтэнанта Качуры». «Сеткавая пагроза». 3-я серыя. Мастацкі фільм.
**10.20** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Хаім Суцін. Смага колеру». Дакументальны фільм.
**10.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці паэта Пятруся Макаля.
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.20** Сусветнае кіно. «Карыялан».
**13.20** «Калейдаскоп».
**13.30** «Сімвалы эпохі». Аўтамабіль «Волга».
**13.45** «Гісторыя аднай фатаграфіі». Дакументальны фільм.
**14.05** «Размаўляем па-беларуску».
**14.10** Серыял. «Мегрэ».
**18.55** «Калейдаскоп».
**19.05** «Сімвалы эпохі». Аўтамабіль «Волга».
**19.20** «Размаўляем па-беларуску».
**19.25** Дзіцячы фільм «Белеет парус одинокий...».
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.15** «Участак лейтэнанта Качуры». «Сеткавая пагроза». 4-я серыя. Мастацкі фільм.
**22.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**22.55** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Хаім Суцін. Смага колеру». Дакументальны фільм.
**23.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці паэта Пятруся Макаля.
**23.50** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.10** Футбол. «Халл Сіт» - «Сток Сіці».
**10.00** Баскетбол. ЧЕ-2015. Кваліфікацыя. Беларусь - Бельгія.
**11.40** Аўтаспорт. Драг-рэйсінг. Этап чэмпіянату Беларусі і Кубка Расіі.
**13.15** Футбол. «Тотэнхэм» - КПР.
**15.10** Фактар сілы.
**15.40** Футбол. «Сандэрлэнд» - «Манчэстар Юнайтэд».
**17.30** Тэніс. Турнір ВТА. Манрэаль.
**20.20** Час футболу.
**21.00** Футбол. Агляд тура.
**21.55** Футбол. «Манчэстэр Сіці» - «Ліверпуль».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**07.15** Свабода без гальштукаў! (аналітычная праграма).
**07.40** Хто ёсць кім?: «Уладзімір Някляеў. «Крэўнасць».
**08.00** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага): Канфлікт ва Украіне: як дзейнічаць беларусам?
**08.30** «Фотааматар», дак. фільм, 1998 г., Польшча.
**09.30** «Норд-Ост. Тэатр смерці», дак. фільм, 2003 г., Польшча.
**10.45** «Галерэя Ады», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**11.35** «У Бога за мяжою», камедыя, 2009 г., Польшча.
**17.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.25** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія: ч. 3.
**18.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Ці зрабіўся шніцаль смачнейшым?
**18.35** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.15** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**19.35** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Ігнат Даніловіч.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Прачытаўшы, спаліць!», камедыя, 2009 г., ЗША.
**23.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.00** Аб'ектыў.

## 26 ЖНІЎНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.05** Дзелавое жыццё.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Серыял «Земскі доктар. Працяг».
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**14.00** Біяграфічны серыял «Фурцава».
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Біяграфічная драма «Брэжнеў». 2-я серыя.
**16.35** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея».
**17.35** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.40** Сфера інтарэсаў.
**00.00** Навіны.
**00.20** Дзень спорту.
**00.35** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Нюхач». Шматсерыйны фільм.
**23.00** Прэм'ера «Першая сусветная».
**00.00** Камедыя «Хлапечнік».
**01.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Дзіўная справа».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Пакуль не згуляў у скрыню».
**15.40** Мае цудоўныя.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Паліцэйская акадэмія -2: Іх першае заданне».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Серыял «Баец».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Сашка».
**10.05** Беларуская кухня.
**10.45** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар».
**11.55** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**13.20** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.55** Серыял «Універ».
**15.00** Серыял «Інтэрны».
**16.10** Вышэй за дах.
**16.40** Серыял «Сашка».
**16.10** Вышэй за дах.
**17.50** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**18.50** Серыял «Універ».
**19.50** Серыял «Інтэрны».
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Час футболу.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. БАТЭ - «Слован».
**23.45** Час футболу.
**00.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар».
**01.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Балалайка.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** Дзіцячы фільм «Белеет парус одинокий...».
**09.25** «Размаўляем па-беларуску».
**09.30** «Участак лейтэнанта Качуры». «Сеткавая пагроза». 4-я серыя. Мастацкі фільм.
**10.25** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Восіп Любіч». Дак. фільм.
**10.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Маргарыты Громавай.
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.20** «Новыя прыгоды Швейка». Мастацкі фільм.
**12.30** «Калейдаскоп».
**12.40** «Сімвалы эпохі». Балалайка.
**12.50** «Размаўляем па-беларуску».
**13.00** «Бачыць нябачнае». Дакументальны фільм. 1-я і 2-я серыі.
**14.20** Серыял. «Мегрэ».
**18.55** «Калейдаскоп».
**19.05** «Сімвалы эпохі». Балалайка.
**19.20** Мультфільмы.
**19.45** «Размаўляем па-беларуску».
**19.50** «Дзівосны новы свет Дарвіна». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** «Участак лейтэнанта Качуры». «Смяротны танец». 1-я серыя. Мастацкі фільм.
**22.00** «Браты Карамазавы». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**23.20** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Восіп Любіч». Дакументальны фільм.
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Маргарыты Громавай.
**0.15 «Калейдаскоп».**

### 5 БЕЛАРУСЬ

**08.10** Футбол. Агляд тура.
**09.00** Футбол. «Манчэстэр Сіці» - «Ліверпуль».
**10.55** Час футболу.
**11.35** Футбол. «Бешыкташ» - «Арсенал».
**13.30** Футбол. «Напалі» - «Атлетык».
**15.20** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Паўфіналы.
**19.30** Спорт-кадр.
**19.55** Баскетбол. ЧЕ-2015. Кваліфікацыя. Данія - Беларусь.
**21.35** Футбол.
**23.35** Футбол. БАТЭ - «Слован».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.50** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**09.05** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**09.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Ігнат Даніловіч.
**09.35** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 12 серыя.
**10.20** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**10.30** «Салідарныя з Беларуссю–2014», канцэрт: выступ гурта»Ляпіс Трубяцкі».
**11.40** «Прыстань», прыгодніцкі серыял:12 серыя.
**17.00** Басанож па свеце (спазнавальная праграма).
**17.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**17.40** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 12 серыя.
**18.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Знявечаная мова зямлі.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Чатыры бакі казак», мультсерыял.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.15** Аўтаспынам па Беларусі.
**19.30** Хто ёсць кім?: «Антон Астаповіч: каб ведалі, адкуль наш род!», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Ян Чачот.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** Без рэтушы: «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**22.15** «Лонданцы», серыял: 12 серыя.
**23.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.00** Аб'ектыў.

TV

## 27 ЖНІЎНЯ, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05** Дзелавое жыццё.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.05** Дзелавое жыццё.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Серыял «Земскі доктар. Працяг».
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**14.05** Біяграфічны серыял «Фурцава».
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Біяграфічная драма «Брэжнеў». 3 серыя.
**16.35** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея» (Расія).
**17.35** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Спецыяльны рэпартаж.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.20** Актуальнае інтэрв'ю.
**23.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.20** Дзень спорту.
**00.30** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Позняе раскаянне». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Нюхач». Шматсерыйны фільм.
**23.00** Прэм'ера «Першая сусветная».
**00.20** Камедыя «Абцасы».
**01.40** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Вам не сніласся».
**09.55** «Чыста па жыцці». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Паліцэйская акадэмія-2: Іх першае заданне».
**15.40** Мае цудоўныя.
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Спявак на вяселлі».
**22.20** Глядзець усім!
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Сардэчна паскардзіцца».
**00.15** Серыял «Баец».

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Сашка».
**10.05** Беларуская кухня.
**10.40** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар».
**11.45** Серыял «Талаш».
**13.40** Серыял «Універ».
**14.50** Серыял «Інтэрны».
**16.40** Серыял «Сашка».
**15.55** Рэпарцёр.
**17.50** Вострасюжэтны дэтэктыў «Лялькі ведзьмака».
**18.45** Хачу ў тэлевізар!
**18.50** Серыял «Універ».
**19.50** Серыял «Інтэрны».
**20.55** Мазгавы штурм.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**00.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.

### 3 Беларусь

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Яйкі Фабержэ.
**07.55** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** «Дзівосны новы свет Дарвіна». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**09.00** «Размаўляем па-беларуску».
**09.05** «Участак лейтэнанта Качуры». «Смяротны танец». 1-я серыя. Мастацкі фільм.
**09.55** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Надзея Хадасевіч-Лежэ». Дакументальны фільм.
**10.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка і літаратурнага крытыка Уладзіміра Карпава.
**10.50** «Размаўляем па-беларуску».
**11.00** «Браты Карамазавы». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.25** «Сімвалы эпохі». Яйкі Фабержэ.
**12.40** Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г.І.Цітовіча. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор - Міхаіл Дрынеўскі.
**13.55** «Шостае пачуццё Людзвіга Фадзеева». Дакументальны фільм пра выдатнага расійскага матэматыка.
**14.35** «Размаўляем па-беларуску».
**14.40** «Цуды прыроды». Мадэйра. Тайвань. Балі.
**15.10** «Жыццё і творчасць Макса Лорэнца». Дакументальны фільм пра знакамітага тэнара.
**16.05** «Беларускі народны каляндар». Купалле.
**16.20** Серыял «Пракляты ўтульны дом». 22-я серыя.
**17.05** «Персона». Вікторыя Тарасава.
**17.25** «Размаўляем па-беларуску».
**17.30** «Давід Ойстрах, народны артыст?» Дакументальны фільм пра яркага прадстаўніка савецкай скрыпічнай школы.
**18.45** «Калейдаскоп».
**18.55** «Сімвалы эпохі». Яйкі Фабержэ.
**19.10** Мультфільмы.
**19.45** «Размаўляем па-беларуску».
**19.50** «Дзівосны новы свет Дарвіна». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** «Участак лейтэнанта Качуры». «Смяротны танец». 2-я серыя. Мастацкі фільм.
**22.00** «Браты Карамазавы». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**23.10** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Надзея Хадасевіч-Лежэ». Дакументальны фільм.
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці пісьменніка і літаратурнага крытыка Уладзіміра Карпава.
**00.05** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**08.10** Футбол. Агляд дня.
**08.40** Футбол. БАТЭ - «Слован».
**10.35** Футбол.
**12.25** Спорт-кадр.
**12.55** Козел пра футбол.
**13.15** Баскетбол. ЧЕ-2015. Кваліфікацыя. Бельгія - Беларусь.
**15.00** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Фінал.
**17.05** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Вячэрняя сесія.
**19.25** Баскетбол. ЧЕ-2015. Кваліфікацыя. Македонія - Беларусь.
**21.35** Футбол.
**23.35** Футбол.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.45** Аўтаспынам па Беларусі.
**09.00** Гісторыя пад знакам Пагоні: Ян Чачот.
**09.15** Басаногм па свеце (спазнаваўчая праграма).
**09.40** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**09.50** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 12 серыя.
**10.40** Без рэтушы: «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**11.05** «Лонданцы», серыял: 12 серыя.
**17.00** Басаногм па свеце (спазнаваўчая праграма).
**17.25** «Апантаныя», дак. цыкл: Апантаныя традыцыяй.
**17.45** «Глыбокая вада – 2», серыял: 12 серыя.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дубоўка і мова.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.15** Без рэтушы: «Гастарбайтэр», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Баршчэўскі.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Без рэтушы: «Дыягназ: Бісмарк», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**21.50** Без рэтушы: «Сыс пра Сыса», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**22.25** «Белая вiзiтоўка», серыял: 5 серыя.
**23.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.25** Аб'ектыў.

## 28 ЖНІЎНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.05** Дзелавое жыццё.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.50** Слова мітрапаліта Паўла.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Серыял «Земскі доктар. Працяг».
**13.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**14.05** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Біяграфічная драма «Брэжнеў». 3 серыя.
**16.35** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея».
**17.35** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** «Вялікая вайна». Дакументальны фільм. Заключная серыя.
**22.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**23.40** Сфера інтарэсаў.
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Позняе раскаянне». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Добры дзень».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Нюхач». Шматсерыйны фільм.
**23.00** Прэм'ера «Першая сусветная».
**00.00** Мастацкі фільм «Капонэ».
**01.50** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТВ-спорт».
**08.55** «Вам і не сніласся».
**09.55** «Чыста па жыцці». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Спявак на вяселлі».
**16.05** «Далёкія сваякі».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Вавілон-5: Заклік да зброі» (ЗША, 1999 г.).
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Серыял «Баец».

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Сашка».
**10.05** Беларуская кухня.
**10.40** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар».
**11.50** Серыял «Талаш».
**13.55** Серыял «Універ».
**15.00** Серыял «Інтэрны».
**16.10** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.45** Серыял «Сашка».
**17.50** Серыял «Сцервы, або дзівацтвы кахання».
**18.50** Серыял «Універ».
**19.50** Серыял «Інтэрны».
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**22.50** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар».
**23.55** Серыял «Сцервы, або дзівацтвы кахання».

### 3 Беларусь

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Размовы пра духоўнае».
**07.50** «Сімвалы эпохі». Духі «Красная Москва».
**08.05** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.15** «Дзівосны новы свет Дарвіна». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**09.05** «Размаўляем па-беларуску».
**09.15** «Участак лейтэнанта Качуры». «Смяротны танец». 2-я серыя. Мастацкі фільм.
**10.05** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Пінхус Крэмень». Дак. фільм.
**10.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці музыканта, заслужанага артыста БССР Міхаіла Бергера.
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.10** «Браты Карамазавы». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.25** «Размовы пра духоўнае».
**12.35** «Сімвалы эпохі». Духі «Красная Москва».
**12.50** Дж.Пергалезі. «Служанка-пані». Опера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.
**13.35** «Размаўляем па-беларуску».
**13.40** «Аляксандра-Неўская лаўра. XX стагоддзе». Дакументальны фільм.
**14.45** «Генералы супраць генералаў». Дакументальны фільм. 1-я і 2-я серыі.
**16.05** Серыял «Пракляты ўтульны дом». 23-я серыя.
**16.55** «Жніво. Зажынкі. Дажынкі». Дакументальны фільм.
**17.10** «Энергія руху». Дакументальны фільм.
**17.25** «Размаўляем па-беларуску».
**17.30** «Падарожжа са смакам». Ірландыя.
**18.05** «Персона». Іван Ахлабысцін.
**18.25** «Калейдаскоп».
**18.35** «Размовы пра духоўнае».
**18.45** «Сімвалы эпохі». Духі «Красная Москва».
**19.00** Мультфільмы.
**19.45** «Размаўляем па-беларуску».
**19.50** «Дзівосны новы свет Дарвіна». Мастацкі фільм. 3-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** «Участак лейтэнанта Качуры». «Смяротны танец». 3-я серыя. Мастацкі фільм.
**22.05** «Браты Карамазавы». Мастацкі фільм. 3-я серыя, заключная.
**23.15** «Мастакі Парыжскай школы. Ураджэнцы Беларусі». «Пінхус Крэмень». Дак. фільм.
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці музыканта, заслужанага артыста БССР Міхаіла Бергера.
**00.10** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.10** Футбол. Агляд дня.
**08.10** Баскетбол. ЧЕ-2015. Кваліфікацыя. Македонія - Беларусь.
**09.45** Футбол.
**11.35** Футбол.
**13.30** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Вячэрняя сесія.
**17.35** Авертайм.
**18.05** Футбол. Суперкубак Іспаніі. «Рэал» (Мадрыд) - «Атлетыка» (Мадрыд).
**20.00** Футбол. Матч у адказ. «Шахцёр» - ПСВ.
**22.00** Футбол. Матч у адказ. «Насьонал» - «Дынама».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Без рэтушы: «Дыягназ: Бісмарк», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**08.50** Без рэтушы: «Гастарбайтэр», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Баршчэўскі.
**09.35** Басаногм па свеце.
**10.00** Назад у будучыню.
**10.15** «Апантаныя», дак. цыкл: Апантаныя традыцыяй.
**10.30** «Глыбокая вада – 2», серыял: 12 серыя.
**11.15** Без рэтушы: «Сыс пра Сыса», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**11.45** «Белая вiзiтоўка», серыял: 5 серыя.
**17.00** Аўтаспынам па Беларусі.
**17.25** «Апантаныя», дак. цыкл: Перадача для палітычнага вязня.
**17.35** «Міс Мокрая Майка», камедыя, 2002 г., Польшча.
**18.30** Моўнік: Што такое суткі?
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.20** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Творчая эміграцыя: здрада ці выйсце.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні: Тамаш Зан.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Два на два (тэледыскусія): Георгій Плашчынскі і Андрэй Елісееў.
**21.55** Без рэтушы: «Іншае жыццё», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**22.45** «Акварыум», серыял: 3 серыя.
**23.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.35** Аб'ектыў.

TV

## 29 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА

**Беларусь 1**

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Дзелавое жыццё.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**08.05** Дзелавое жыццё.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.05** Біяграфічны серыял «Фурцава» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**15.55** Прыгодніцкі дэтэктыў «Логава змея» (Расія).
**16.50** Зорнае жыццё.
**17.45** Серыял «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.00** Фінал адборачнага тура Рэспубліканскага дзіцячага конкурсу «Песня для Еўрабачання - 2014».
**23.30** Навіны.
**23.45** Дзень спорту.
**00.30** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).

**АНТ**

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Позняе раскаянне». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Мастацкі фільм «Парасонік для маладых».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Рыхт-у-рыхт».
**23.50** Мастацкі фільм «Вялікі год».
**01.40** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Вам і не снілася».
**09.50** «Чыста па жыцці». Камедыйны серыял.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Вавілон-5: Заклік да зброі» (ЗША, 1999 г.).
**15.35** «Мае цудоўныя...».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Мае зоркі цудоўныя».
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Сусветны іспыт». Фільм.
**23.30** «Ежа багоў».
**00.00** «Вялікая гульня». Покер.
**00.15** Фільм «Задыяк».

**Беларусь 2**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Сашка».
**10.05** Беларуская кухня.
**10.40** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар».
**11.50** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**13.00** Кіпень.
**13.20** Перазагрузка.
**14.00** Серыял «Універ».
**15.10** Серыял «Інтэрны».
**16.10** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.50** Серыял «Сашка».
**17.55** Серыял «Сцервы, або дзівацтвы каханння».
**18.55** Баявік «Знайсці забойцу».
**20.50** Мазгавы штурм.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Бітва экстрасэнсаў.
**23.00** Рэпарцёр.
**23.50** Трылер «Прывіды Марса».
**01.30** Серыял «Сцервы, або дзівацтвы каханння».

**Беларусь 3**

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Дазвольце расказаць». Янка Крук.
**07.55** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** «Дзівосны новы свет Дарвіна». Мастацкі фільм. 3-я серыя.
**08.55** «Размаўляем па-беларуску».
**09.05** «Участак лейтэнанта Качуры». «Смяротны танец». 3-я серыя. Мастацкі фільм.
**09.55** «1812. Ад Нёмана да Нёмана». Дакументальны фільм пра вайну 1812 г. на тэрыторыі Беларусі.
**10.25** «Свята далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі БССР Зінаіды Браварскай.
**10.50** «Размаўляем па-беларуску».
**10.55** «Браты Карамазавы». Мастацкі фільм. 3-я серыя, заключная.
**12.05** «Калейдаскоп».
**12.15** «Дазвольце расказаць». Янка Крук.
**12.30** А.Казанцаў. «Стары дом». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра ім. Якуба Коласа.
**14.45** «Размаўляем па-беларуску».
**14.50** «Генералы супраць генералаў». Дакументальны фільм. 3-я і 4-я серыі.
**16.10** Серыял. «Пракляты ўтульны дом». 24-я серыя.
**17.00** «Размаўляем па-беларуску».
**17.05** «Пейзажы скрозь час». Амерыканскія імпрэсіяністы ў Олд Лайме.
**17.30** «Дар'я Домрачава. Прадстаўляючы Беларусь». Дакументальны фільм.
**18.20** «Калейдаскоп».
**18.30** «Дазвольце расказаць». Янка Крук.
**18.45** Мультфільмы.
**19.25** «Размаўляем па-беларуску».
**19.30** Дзіцячы фільм. «Дзе ты, Багіра?».
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** «Участак лейтэнанта Качуры». «Смяротны танец». 4-я серыя, закл. Мастацкі фільм.
**22.05** «1812. Ад Нёмана да Нёмана». Дакументальны фільм пра вайну 1812 г. на тэрыторыі Беларусі.
**22.30** Сусветнае кіно. «Крамер супраць Крамера».
**00.10** «АРТиШОК». Гурт «Без білета».
**00.40** «Свята далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі БССР Зінаіды Браварскай.
**01.05** «Калейдаскоп».

**Беларусь 5**

**07.55** Авертайм.
**08.25** Тэніс. Чвэрцьфінал.
**10.30** Футбол. «Дынама» (Мінск) - «Насьонал» (Партугалія).
**12.25** Футбол. ПСВ (Нідэрланды) - «Шахцёр» (Беларусь).
**14.25** Лёгкая атлетыка. Вячэрняя сесія.
**19.00** Еўрапейскі покерны тур.
**20.00** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Паўфінал.
**22.00** Хакей. «Дынама» (Мінск) - «Нёман» (Гродна).
**23.25** Футбол. Суперкубак Іспаніі. «Рэал» (Мадрыд) - «Атлетыка» (Мадрыд).
**00.50** Пляжны футбол. Суперфінал Еўралігі-2014.
**02.00** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Паўфінал.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Два на два (тэледыскусія): Георгій Плашчынскі і Андрэй Елісееў.
**08.55** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Творчая эміграцыя: здрада ці выйсце.
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тамаш Зан.
**09.40** Аўтаспынам па Беларусі.
**09.55** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**10.10** «Апантаныя», дак. цыкл: Перадача для палітычнага вязня.
**10.20** «Міс Мокрая Майка», камедыя, 2002 г., Польшча.
**11.15** «Іншае жыццё», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**12.05** «Акварыум», серыял: 3 серыя.
**17.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.20** Без рэтушы: «Крыжы Беларусі», рэпартаж, 2011 г., Беларусь.
**17.45** «Прыстань», прыгодніцкі серыял:13 серыя.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Знак націску: капрыз ці неабходнасць?
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Андрэй Курэйчык і тэатр.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Адам Міцкевіч.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Dэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Форум (ток-шоу): Школьны вальс.
**22.10** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**22.20** «Заўтра пойдзем у кіно», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**00.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**1:05** Аб'ектыў.

## 30 ЖНІЎНЯ, СУБОТА

**Беларусь 1**

**07.20** Існасць.
**07.00** Фільм «Папялушка».
**09.00** Навіны.
**09.10** Фільм «Папялушка».
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** Давярай і правярай.
**12.50** Здароўе.
**13.35** Таямніцы следства.
**14.10** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**16.55** Кінааповесць «Паненка-сялянка».
**19.00** Камедыя.
**21.00** Панарама.
**21.40** Меладрама «Тэрмінова шукаю мужа».
**23.30** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

**АНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**12.30** «Колькі каштуе кінуць піць».
**13.25** Святлана Кручкова. «Я проста навучылася мудра жыць».
**14.20** Шматсерыйны фільм «Вялікі перапынак».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Шматсерыйны фільм «Вялікі перапынак».
**10.00** «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Паўтары!».
**23.15** Мастацкі фільм «Горад анёлаў».

**СТВ**

**06.25** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**08.00** Анфас.
**08.15** Кіно: «Мае зоркі цудоўныя».
**09.05** «Чыстая праца».
**10.00** Іншая краіна.
**10.45** «Уявіце сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.35** Фільм «Гусарская балада» (СССР, 1962 г.).
**15.15** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.35** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10** Фільм «Выкуп». ЗША, 1996г.
**22.30** СТВ прадстаўляе: «Зорны рынг».
**23.50** Фільм «Круцельства».
**01.10** «Глядзець усім!».

**Беларусь 2**

**07.20** Дзіцячы фільм «Казка пра страчаны час».
**08.45** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.20** Беларуская кухня.
**11.00** Тэлебарометр.
**11.40** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**13.15** Бітва экстрасэнсаў.
**14.50** «Марыя Верн: Таямніца мёртвых птушак». Дэтэктыў.
**18.25** Вышэй за дах.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**20.40** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Мазгавы штурм.
**23.20** Баявік «Вясёлыя канікулы».

**Беларусь 3**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Заўтра - гэта мы!».
**08.40** «Размаўляем па-беларуску».
**08.45** Серыял. «Мегрэ».
**13.10** «Калейдаскоп».
**13.20** «Наперад у мінулае».
**13.50** «Размаўляем па-беларуску».
**13.55** «Янка Купала...Я адплаціў народу». Дакументальны фільм.
**14.20** «Сад маёй душы». Дакументальны фільм пра Батанічны сад у Мінску і яго супрацоўнікаў.
**14.50** «Размаўляем па-беларуску».
**14.55** «АРТиШОК». Гурт «Без білета».
**15.20** Канцэрт Акадэмічнага ансамбля песні і танца Расійскай Арміі імя А.В.Аляксандрава.
**16.40** «Ціхая застава». Мастацкі фільм.
**18.10** «Размаўляем па-беларуску».
**18.15** «Магія слова і гуку». Дакументальны фільм аб традыцыйным ладзе жыцця народаў рускай Поўначы.
**18.55** «Размаўляем па-беларуску».
**19.00** «Рыфмуецца з любоўю». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** Сусветнае кіно. «Маленькая чорная кніжка».
**22.55** «Іван Масквіцін. Шлях да акіяна». Дакументальны фільм з серыі «Першапраходцы Далёкага Усходу».
**23.45** «Калейдаскоп».

**Беларусь 5**

**08.10** Футбол. БАТЭ - «Слован».
**10.00** Футбол. Суперкубак Іспаніі. «Атлетыка» (Мадрыд) - «Рэал» (Мадрыд).
**11.55** Хакей. Кубак Руслана Салея. Групавы этап.
**13.45** Еўрапейскі покерны тур.
**14.40** Футбол. «Бэрнлі» - «Манчэстар Юнайтэд».
**16.55** Футбол. «Манчэстэр Сіці» - «Сток Сіці».
**19.25** Футбол. «Эвертан» - «Чэлсі».
**21.20** Футбол. «Ньюкасл» - «Крыстал Палас».
**22.00** Тэніс. Турнір ВТА. Нью Хэйвен. Фінал.
**23.15** Футбол. «Астан Віла» - «Халл Сіці».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Чатыры бакі казак», «Прыгоды і паходы».
**08.55** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 2 серыя.
**09.30** Форум (ток-шоу): Школьны вальс.
**10.15** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**10.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.45** «Лонданцы», серыял: 12 серыя.
**11.30** «Гастарбайтэр», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**12.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Адам Міцкевіч.
**12.15** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Чатыры бакі казак», «Прыгоды і паходы».
**12.45** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 2 серыя.
**13.20** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 12 серыя.
**14.05** «Заўтра пойдзем у кіно», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**15.45** «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**16.15** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Смерць маршала».
**17.05** Без рэтушы: «Амазонкі глыбокіх крыніц», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**17.30** «Парад пераможцаў», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**18.20** Беларусы ў Польшчы.
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Ліс Леон».
**18.50** Аўтаспынам па Беларусі.
**19.05** «Трэцяя скрыпка», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Францішак Савіч.
**19.30** «Паход вызвалялнікаў», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**20.30** Свабода без гальштукаў! (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Цудоўны дзень», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**22.50** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 13 серыя.
**23.40** «Глыбокая вада», серыял: 12 серыя.
**00.25** МакраФон: «Be Free–2008», фэстываль: выступ гурта «Тав. Маўзер».
**00.55** Аб'ектыў.

TV

## 31 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ

**1 Беларусь**

**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.50** Дакументальны цыкл «Яны спявалі за Радзіму». Фільм 10-ы.
**14.25** Дыялогі аб цывілізацыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.35** Давярай і правярай.
**17.10** Меладраматычны дэтэктыў «Школа для таўстушак».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Камедыя «Лары Краўн».



**00.05** Камедыйны серыял «Сваты-5» (Украіна).

**НТВ**

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Ідэальны рамонт».
**12.30** Мастацкі фільм «Афоня».
**14.10** Драма «Вось я які».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Зараза».
**17.25** «Асяроддзе пражывання».
**18.30** «Хвіліна славы».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Подых планеты».
**21.35** Фільм «ПіраМММіда».
**23.30** Драма «Як пазнаць сваіх святых».

**СТВ**

**06.00** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**07.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.55** Фільм «Выкуп». ЗША, 1996г.
**10.00** Вялікі сняданак.
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.20** «Добры дзень, доктар».
**12.55** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**13.55** Фільм «Два квіткі на дзённы сеанс» (СССР, 1966 г.).
**15.45** «Глядзець усім!».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**18.25** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Фантомны боль».
**22.30** СТВ прадстаўляе: Музычны фестываль.
**23.50** Фільм «8 1/2».
**01.15** «Дакументальны спецпраект».

**2 Беларусь**

**07.20** Фільм «Міо, мой Міо».
**08.45** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.25** Мазгавы штурм.
**10.55** Тэлебарометр.
**11.20** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**11.50** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**13.25** Дэтэктыў «Метад Фрэйда».
**15.35** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.10** Баявік «Знайсці забойцу».
**18.05** Гумарыстычная шоу-праграма «Comedy Батл. Без межаў» (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.45** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**23.20** Дэтэктыў «Метад Фрэйда».



**3 Беларусь**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Таямніца душы». Іканапіс Беларусі.
**08.35** «Размаўляем па-беларуску».
**08.40** Серыял. «Мегрэ».
**13.35** «Калейдаскоп».
**13.45** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**14.40** «Размаўляем па-беларуску».
**14.45** «Жывыя сведкі леднікоў». Дакументальны фільм пра рэдкія віды птушак беларускага Паазер'я.
**15.25** «Рыфмуецца з любоўю». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**17.10** «Іван Масквіцін. Шлях да акіяна». Дакументальны фільм з серыі «Першапраходцы Далёкага Усходу».
**18.05** «Размаўляем па-беларуску».
**18.10** «Аўтограф». Ансамбль танца «Белыя росы» з горада Гродна.
**18.35** «Культпрасвет».
**19.05** Сусветнае кіно. «Крамер супраць Крамера».
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.15** «Блізкія кантакты трэцяга роду». Мастацкі фільм.
**23.25** «Культпрасвет».
**23.50** «Подых струн. Мелодыі лета».
**01.05** «Калейдаскоп».

**5 Беларусь**

**07.20** Футбол. «Астан Віла» - «Халл Сіці».
**09.15** Футбол. «Эвертан» - «Чэлсі».
**11.10** Футбол. «Бэрнлі» - «Манчэстар Юнайтэд».
**13.00** Футбол. «Манчэстэр Сіці» - «Сток Сіці».
**14.55** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова - «Борац».
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Тарпеда» - БелАЗ.
**18.55** Хакей. Кубак Руслана Салея. Фінал.
**21.35** Футбол. «Тотэнхэм» - «Ліверпуль».
**23.30** Футбол. «Лестэр» - «Арсенал».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Прыгоды і паходы», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Ліс Леон».
**07.45** «Зорны пірат», тэлесерыял: 5 серыя.
**08.15** Свабода без гальштукаў!
**08.40** Без рэтушы: «Амазонкі глыбокіх крыніц», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**09.00** Беларусы ў Польшчы.
**09.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.45** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 13 серыя.
**10.30** «Новая Польшча», дак. фільм, 2010 г., Польшча – ЗША.
**11.25** Аўтаспынам па Беларусі.
**11.45** Моўнік (лінгвістычная праграма): Знак націску: капрыз ці неабходнасць?
**11.50** Казкі для дзетак: «Прыгоды і паходы», «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы ўнучок».
**12.25** «Зорны пірат», тэлесерыял: 5 серыя.
**12.50** МакраФон: «Права быць свабодным» (канцэрт альтэрнатыўнай музыкі «Луцк-2007»): выступ гуртоў «Індыга», «Крама», «Уліс».
**13.45** «Парад пераможцаў», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**14.35** «Паход вызваляльнікаў», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**15.35** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 13 серыя.
**16.20** «Цудоўны дзень», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**17.55** «Гастарбайтэр», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**18.25** «Дыягназ: Бісмарк», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**18.50** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.00** Калыханка для самых маленькіх: «Ліс Леон».
**19.10** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.25** «ГУЛаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя – Расія: ч. 4.
**20.25** «Верасень 1939. Як нас вызвалялі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Адважныя», драма, 1997 г., ЗША.
**23.15** Лета з дэтэктывам: «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 4 серыя.
**00.05** «Міс Мокрая Майка», камедыя, 2002 г., Польшча.
**01.00** МакраФон: «Права быць свабодным» (канцэрт альтэрнатыўнай музыкі «Луцк-2007»): выступ гуртоў «Індыга», «Крама», «Уліс».

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

Новы час
novychas.info
Для тых, хто прымае рашэнні!

# Узлёт і падзенне адной калабарацыі

Алег НОВІКАЎ

**У чарговую гадавіну падаўлення Пражскай вясны ў жніўні 1968 года чэшскія гісторыкі звяртаюць увагу на незвычайны лёс сябраў руху прасавецкай калабарацыі.**



Левы фронт, Ленінскі Саюз, «кансервы», «лібенякі», «ультрас» — гэта назвы розных камуністычных груповак чэхаславакаў, якія, у адрозненні ад большасці суайчыннікаў, віталі інтэрвенцыю войскаў Варшаўскай дамовы ў ЧССР.

Фармавацца гэтая ідэйна-палітычная плынь пачала на пачатку 1968-га, калі лідарам Саюза чэхаславацкіх камуністаў (KSČ) стаў рэфарматар Аляксандр Дубчак. Адным з першых крокаў новага кіраўніцтва стала зачыстка ў студзені таго ж года апарату партыі ад прыхільнікаў сталінізму. Гэта і стала іскрай для пратэсту. Неўзабаве ў адным з парыжскіх рэстаранаў сабралася група незадаволеных Дубчакам камуністаў, якія прынялі рэзалюцыю супраць «ліквідатарскай рэвізіяніцкай клікі». Чамусьці ядро фронды складалася з сяброў секцыі ў горадзе Лібне. Таму працаўнікаў новага курсу KSČ часта таксама называлі «лібенякі».

Сацыяльная прырода бунту «лібенякаў» у прынцыпе нагадвае прыроду руху праціўнікаў перабудовы ў СССР. Гэта былі ветэраны Другой сусветнай вайны, функцыянеры, дагматыкі. Праўда, сярод чэхаславацкіх рэтраградаў было больш рамантыкаў-камуністаў, некаторыя з якіх раней увогуле не былі сябрамі KSČ. Душой дагматыкаў быў Ёзаф Ёдас — адзін з фундатараў кампартыі, былы вязень фашысцкіх канцлагераў, шматгадовы апаратчык.

Да прыходу савецкіх войскаў ультрас намагаліся актыўна супрацьстаяць рэформам Дубчака. Галоўным чынам яны дыскутавалі з яго прыхільнікамі на старонках прэсы. Пакуль на пачатку лета галоўны рэдактар «Rudé právo» (галоўны орган KSČ) канчаткова не адмовіў Ёдасу і яго аднадумцам. Гэта актывізавала левую фракцыю кампартыі. Узнікла нават ідэя расколу арганізацыі і стварэння асобнай партыі. Адначасова вырашалася праблема выхаду на масы. Праз сваіх знаёмых сталіністаў у розных установах ультрас дасталі тэхніку для друку.

Праўда, наладзіць выпуск сваёй прэсы яны не паспелі — грымнула інтэрвенцыя. Замест газет прыйшлося выпускаць улёткі з падзякай савецкіх салдат за акупацыю. На фоне таго, што большасць чэхаславакаў заклікала інтэрвентаў адпраўляцца дамоў, такое, натуральна, спадабалася кіраўніцтву Савецкай Арміі.

Гэта быў зорны час калабарантаў. Іх уключылі ў спецыяльны савет пры акупацыйнай адміністрацыі, даручылі друк усёй прапагандысцкай літаратуры. Некаторых вывезлі ў ГДР для працы ў рэдакцыі чэшскамоўнай радыёстанцыі «Fltáva», якая базіравалася ў Дрэздэне. Агітпропам справа не абмяжоўвалася. «Лібенякаў» пачалі ўводзіць у дзяржаўныя структуры. Ім, напрыклад, дасталася Міністэрства адукацыі. Кінулі іх і на стварэнне Левага фронту — арганізацыі, у якую запісвалі практычна ўсіх. Гэта арганізацыя павінна была стварыць новаму рэжыму падтрымку на месцах.

Думаецца, найбольш важным накірункам працы калабарантаў была падрыхтоўка Белай кнігі чэхаславацкай контррэвалюцыі, якая пабачыла свет ужо ў кастрычніку 1968 года. Гэта зборнік дакументаў, якія мусілі давесці, што мэтай аўтараў Пражскай вясны была рэстаўрацыя капіталізму і ледзь не ўваходжанне Чэхаславакіі ў склад ФРГ на правах пратэктарату. Гэта перакладзеная на дзясяткі моваў і надрукаваная стотысячнымі накладамі кніжка павінна была пераканаць сусветную грамадскасць у прагрэсіўным характары акупацыі.

Адным з важных участкаў фронту для калабарантаў была адпаведная трактоўка чыну Яна Палаха — студэнта Карлава ўніверсітэта ў Празе, які ў знак пратэсту супраць акупацыі Чэхаславакіі войскамі Савецкага Саюза і іншых краін Варшаўскай дамовы 16 студзеня 1969 года абліў сябе бензінам і здзейсніў самаспаленне на Вацлаўскай плошчы ў Празе. Яго пахаванне ператварылася ў дэманстрацыю пратэсту, а сам ён стаў сімвалам гэтага пратэсту, які камуністам трэба было дыскрэдытаваць. З дапамогай ультрас з'явілася і пачала тыражавацца тэорыя пра тое, што Палах пайшоў на самагубства з-за правалаў у асабістым жыцці і праблемаў з вучобай.

Неверагодны ўзлёт учарашніх маргіналаў на ўладным ліфце стаў прыкладам для шматлікіх кар'ерыстаў. Мела месца практыка, калі некаторыя чыноўнікі запісваліся ў склад ультрас і спрабавалі заняць месца кіраўніка сваёй установы на падставе таго, што ў часы Дубчака, маўляў, той быў апартуністам.

Аднак, як часта бывае ў гісторыі, нечакана кан'юнктура змянілася. У Маскве хутка зразумелі, што рэстаўрацыя ў Чэхаславакіі парадкаў часоў Готвальда спраакуе новую фазу палітычнай напружанасці. Між тым, ультрас менавіта гэтага і жадалі. Яны разумелі прыход савецкіх войскаў як першы акт сістэмнай трансфармацыі краіны. Лідары ўльтрас патрабавалі забараніць заходнюю музыку і фасоны, кнігі экзістэнцыялістаў, патрабавалі ўвесці квоты на прысутнасць у вертыкалі для выпускнікоў ВНУ, якія чамусьці лічыліся буржуазнымі, намагаліся не пускаць у KSČ выхадцаў з нерабочых сямей. Саму партыю яны бачылі як нейкі ордэн для абраных, або, кажучы словамі саміх ультрас, яны хацелі стварыць «жалезны дывізіён».

Не дзіўна, што ў выніку стаўку вырашылі зрабіць на прыхільнікаў канцэпцыі «нармалізацыі», якая ўключала ў сябе шырокую амністыю для прыхільнікаў Пражскай вясны, фармаванне лаяльнай большасці за кошт сацыяльных рэформаў, лібералізацыі культурных працэсаў, дазіраванага пашырэння кантактаў з Захадам. Лепшым кандыдатам для рэалізацыі такой лініі аказаўся Густаў Гусак, які і ўзначаліў KSČ.

Змена прыярытэтаў прывяла да новай чысткі ў партыі, аднак на гэты раз супраць ультрас. Адначасова з цэнтру на месцы была спушчаная інструкцыя — забараніць публікацыі сталіністаў на старонках прэсы. Першай рэакцыяй ахвяр новай чысткі стаў паход у савецкае пасольства са скаргай на правых апартуністаў. Пасля таго, як рускія далі зразумець ходакам, што яны не супраць рэпрэсій, пазіцыі сталіністаў унутры кампартыі імкліва саслабелі. Ужо ў 1970 годзе ўсіх ультрас, якія раней займалі высокія афіцыйныя пасады, выставілі з кабінетаў.

Пасля гэтага сталіністы сышлі ў дысідэнты. Прыкладна да сярэдзіны 1970-х гадоў сталіністы мелі нейкую структуру, сябры якой крытыкавалі палітыку нармалізацыі Гусака. Напэўна, самай значнай спробай насаліць Гусаку была ідэя публічнай акцыі з нагоды смерці Антаніна Новатнага (камуністычнага лідара Чэхаславакіі 1957–1968 гадоў). Арганізатары акцыі не ведалі, што ўсе яны даўно пад каўпаком спецслужбаў. Напярэдадні маніфестацыі былі ультрас быў арыштаваны, а ў іх дамах прайшлі ператрусы.

Гэта быў апошні гучны эпізод у незвычайнай гісторыі чэхаславацкіх прасавецкіх калабарантаў 1968 года.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Ніхто ў здаровым розуме і цвярозай памяці не можа цяпер уявіць сабе Украіну сябрам якога б там ні было аб'яднання, ініцыяванага Расіяй. Прычым праблема не ў адной Украіне. З прычыны «рускай вясны» Беларусь з Казахстанам таксама згубілі цікавасць да любых інтэграцыйных праектаў на постсавецкай прасторы. Справа ў тым, што ў Лукашэнкі і ў Назарбаева ёсць сваё рускамоўнае насельніцтва, якое з гэтага часу ўспрымаецца як міна запаволенага дзеяння: а раптам ім таксама захочацца «федэралізацыі» або «народных рэспублік»? Таму з праектамі Мытнага і Еўразійскага саюзаў, хутчэй за ўсё, можна канчаткова развітацца.

**«Odessa-daily» (Украіна)**

Пад эмбарга не трапляюць прадукты, атрыманыя ў выніку перапрацоўкі еўрапейскай сыравіны на тэрыторыі краін, якія не патрапілі пад нашы санкцыі. Як следства, еўрапейскія вытворцы цяпер выстройваюцца ў чаргу да Лукашэнкі. Ну хто яшчэ, акрамя Пуціна, можа адным росчыркам пяра ператварыць Еўразаюз у сыравінны прыдатак Мінска?

**«Stockinfocus» (Расія)**

Знаёмства з тэкстам законапраекта, а таксама з утрыманнем абмеркавання дэкрэта аб безгаспадарлівасці расчаравала мясцовых назіральнікаў. На паверку дакументы, якія неаднаразова абмяркоўваліся на самым высокім узроўні, вакол якіх шмат шуму і размоваў, не ўтрымліваюць нічога новага. Там адны загаворы і танцы з бубнамі, кажуць аналітыкі. З чыноўніцтва ўжо даўно сышлі больш-менш кампетэнтныя людзі, якія маюць сваё меркаванне і здольныя яго адстойваць. Па-першае, зарплата сапраўды невысокая. Па-другое, людзі не могуць выконваць узаемавыключальныя і неажыццяўляльныя ўказанні. То павышаць вал, то даваць прыбытак, то павялічваць зарплату, то замарозіць. У краіне няма эканамічнай палітыкі, заснаванай на рэальнай ацэнцы сітуацыі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Беларускі афіцыёз аб пашырэнні расійскай ваеннай прысутнасці практычна не згадвае, а асноўнай крыніцай інфармацыі аб сваёй авіябазе ў Беларусі з'яўляецца сама Расія. Аляксандр Лукашэнка можа штучна зацягваць вырашэнне пытання аб прысутнасці ваеннага кантынгенту расійскіх ВПС на беларускай тэрыторыі. Прычын такой затрымкі некалькі. Мінск вядзе з Масквой закулісны гандаль, выбіваючы для сябе прэферэнцыі. Калі такая база не з абарончым, як раней дэкларавалася, а з наступальным узбраеннем усё ж будзе размешчана, беларускі прэзідэнт страціць міжнародную суб'ектнасць. Надзеі Лукашэнкі аднавіць адносіны з ЕС паваляцца, таму што яго і саму Беларусь перастануць сур'ёзна ўспрымаць спачатку на Захадзе, а затым і ў Расіі.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Гэта тыповае лавіраванне паміж патрабаваннямі Крамля і неабходнасцю захавання добрасуседскіх адносін з былой рэспублікай Савецкага Саюза Украінай. Такім чынам, Лукашэнка павінен быў радавацца, што перамовы кантактнай групы АБСЕ — Украіна праходзілі ў Мінску. Тут палітык, якога лаюць праваабарончыя арганізацыі, мог быць прадстаўлены як мадэратар, без непасрэднага ўдзелу ў перамовах. Але зараз Лукашэнка выглядае больш нервовым. У публічных выступах ён крычыць, што яго краіна падрыхтаваная ў ваенным дачыненні супраць любой «арды», усё роўна — з Захаду або з Усходу. Ён баіцца, лічаць многія назіральнікі. Двайная гульня Мінска ўлічвае рэакцыю Масквы.

**«Kurier» (Аўстрыя)**

Новы час 22 жніўня 2014 | № 31 (400)

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КІТАЙ. Новая фаза каланізацыі Тыбету

У жніўні першы цягнік прайшоў ад тыбецкай сталіцы Лхаса да гораду Шыгадзе. Такім чынам быў уведзены ў эксплуатацыю ўчастак працягласцю 251 кіламетр, які будавалі з 2010 года. Лінія Лхаса—Шыгадзе — не проста чыгунка. На думку палітолагаў, яна мае стратэгічнае значэнне для каланізацыі краю, дзе вельмі моцныя незалежніцкія настроі. Перш за ўсё, новая лінія дазваляе кітайцам з цэнтру краіны ў пошуках працы ехаць у Тыбет, які, дарэчы, зараз перажывае турыстычны бум. Спецыялісты таксама звяртаюць увагу на маршрут чыгункі. Яна праходзіць праз перыферыйныя раёны поўдня тыбецкай аўтаноміі — бастыёна традыцыйнай тыбецкай культуры. Менавіта адносная ізаляцыя раёну спрыяла існаванню тут моцнага руху за незалежнасць. Інтэграцыя ў кітайскую эканамічную і культуру, з'яўленне кітайскіх рабочых, хутчэй за ўсё, разбураць мясцовую мадэль ідэнтычнасці.

**Паводле індыйскай прэсы**

### УКРАІНА. Майдан стане Ватыканам?

Адміністрацыя Кіева намагаецца вызваліць Майдан ад усіх артэфактаў нядаўняй рэвалюцыі, якія, па словах мэрыі, перашкаджаюць нармальнаму функцыянаванню гарадской інфраструктуры. Пры гэтым, калі верыць праціўнікам Клічко, мэр карыстаецца паслугамі т. зв. «неацітушак», якія распраўляюцца з тымі, хто не хоча пакідаць плошчу. Напрыклад, на днях на Майдане ад іх дасталася журналістам за тое, што здымалі разбурэнне каркасу славутай ялінкі, якая стаіць тут з мінулага лістапада. Скандал вакол збіцця журналістаў прымусіў мэра прапанаваць грамадству нейкую кампенсацыю за зачыстку Майдану. Пакуль гутарка ідзе пра тое, каб паставіць на ўскрайку Майдана невялікую сцэну, якая стане аналагам гайд-парку. Між тым, майданаўцы патрабуюць большага. На сайце кангрэсу ЗША з'явілася петыцыя, аўтары якой заклікаюць урад ЗША патрабаваць ад Кіева стварэння на Майдане асобнай мікрадзяржавы, накшталт Ватыкана. Абвяшчэнне Майдана асобнай дзяржавай, па словах ініцыятараў, дазволіць мецць зону, дзе будзе вольна развівацца грамадзянскі рух. Аднак пакуль колькасць падпісантаў за дзяржаву Майдан невялікая.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КНДР. Кім Ір Сена прыбіраюць з банкнотаў

З паўночнакарэйскіх банкнот коштам 5000 вонаў знікла знаёмая кожнаму жыхару КНДР усмешка «Бацькі нацыі» Кім Ір Сена. У ходзе грашовай рэформы малюнак на купюрах змяніўся: цяпер замест «таварыша Кіма» намаляваны дом, дзе Кім Ір Сен нарадзіўся і правёў дзяцінства. На адваротным баку купюры можна пабачыць фатаграфіі падарункаў, якія Кім Ір Сен і яго сын Кім Чэн Ір атрымлівалі ад замежных лідараў. Раней выявы Кім Ір Сена ўжо зніклі з купюр наміналам у адну і дзве тысячы вонаў. Выдаленне партрэта заснавальніка дзяржавы з грашовых знакаў можа азначаць асцярожны пачатак развянчання культу яго асобы, лічаць некаторыя эксперты. На іх думку, гэта робіцца для таго, каб пачаць стварэнне культу новага лідара Кім Чэн Ына. Грошы для гэтай сферы вельмі важныя. Простыя карэйцы, па некаторых дадзеных, прыпісваюць выявам правадыроў звышнатуральныя здольнасці. Застаецца сказаць, што купюра ў 5000 вонаў фармальна роўная 50 доларам ЗША, аднак фактычна яе рынкавы курс каля аднаго долара. Сярэдні штомесячны заробак у КНДР складае каля трох тысяч вонаў.

**Паводле паўднёвакарэйскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Хто больш за ўсё клапоціцца пра мір

Англійская палітолаг Сайман Анхольт прадставіў рэйтынг goodcountry, які вызначае, якія краіны робяць найбольш для глабальнага дабрабыту. Усяго ў рэйтынгу сем асноўных катэгорый: навука і тэхніка, культура, міжнародны мір і бяспека, глабальны парадак, планета і клімат, росквіт і роўнасць, ахова здароўя і дабрабыт. У выніку ў першую дзясятку трапілі дзевяць еўрапейскіх краін. А першае месца дасталася Ірландыі. Наступныя пазіцыі ў Фінляндыі, Швейцарыі, Нідэрландаў, Новай Зеландыі, Швецыі, Вялікабрытаніі, Нарвегіі, Даніі і Бельгіі. ЗША займаюць 21-е месца, Ізраіль — 37-е месца, Расія — 95-е месца, Украіна — 99-е. На апошнім месцы аказалася Лівія. Што тычыцца Беларусі, то па ўзроўню пазітыўнага ўплыву на планетны дабрабыт, мы — на 82-м месцы са 125 краін. Найбольшыя заслугі РБ звязаныя з дзейнасцю ў галіне абароны экалогіі і клімату (118 балаў), падтрымання сістэмы бяспекі (108 балаў) і роўнасці (74). У іншых сферах — навука, культура, здароўе, глабальны парадак, Беларусь шмат балаў не набрала.

**Паводле польскай прэсы**

# Геі і шахцёры разам

Алег НОВІКАЎ

**У Брытаніі на экраны выходзіць скандальны фільм «Pride» пра сумесную барацьбу геяў і шахцёраў супраць рэформаў Маргарэт Тэтчэр.**




Фільм распавядае пра малавядомы эпізод брытанскай гісторыі 30-гадовай даўніны. У самы разгар масавага страйку шахцёраў 1984–1985 гадоў прадстаўнікі сэксуальных меншасцяў стварылі групу падтрымкі забастоўшчыкаў. Арганізацыя пад назвай «Лесбіянкі і геі падтрымліваюць шахцёраў» (LGSM) вырашыла збіраць сродкі ў дапамогу сем'ям шахцёраў (пасля таго, як урад Тэтчэр замарозіў банкаўскія рахункі шахцёрскага прафсаюзу, працоўныя не мелі доступу да забастовачнага фонду).

Як правіла, такога кшталту групы салідарнасці бралі пад апеку канкрэтны шахцёрскі пасёлак. LGSM дапамагала гарнякам з невялікай камуны ва Уэльсе. Кампанія дапамогі LGSM аказалася вельмі яскравай, паколькі яе падтрымала шмат прадстаўнікоў артыстычнага свету Лондана. За кошт канцэртаў удалося сабраць для рабочых каля 20 тысяч фунтаў — салідная сума па тых часах.

Не абышлося без праблем. Па-першае, самі шахцёры асцярожна, а часам нават варожа ставіліся да падтрымкі з боку гей-супольнасці. Па-другое, міма дзейнасці LGSM проста не магла прайсці блізкая да ўраду жоўтая прэса. «The Sun» — флагман бульварнай журналістыкі — апублікаваў серыю артыкулаў пра LGSM з мэтай дыскрэдытацыі ўсяго рабочага руху. Аднак тыя гамафобскія публікацыі мелі адваротны эфект. Простыя англічане, каб давесці сваё адзінства ў барацьбе супраць дыктату ўлады і газетных баронаў, пачалі называць сябе «вычварэнцамі».

Акрамя таго, гісторыя спрыяла разбурэнню стэрэатыпаў сярод прафсаюзнікаў і актыву левых партый. У 1985 годзе па слядах кампаніі LGSM Лейбарысцкая партыя прыняла гістарычную рэзалюцыю пра падтрымку аднаго з гей-прайдаў. Дарэчы, каапeрацыя геяў і шахцёраў адбывалася на фоне істэрыкі вакол СНІДу. Сярод абывацеляў лічылася, што хваробу можна падхапіць падчас любога кантакту з прадстаўнікамі нетрадыцыйнай арыентацыі. Прынамсі ў 1986 годзе так думалі каля 64 працэнтаў брытанцаў. Яшчэ адна лічба для лепшага разумення тагачаснай грамадскай атмасферы — у 1983 годзе 87 працэнтаў брытанцаў лічылі, што гомасэксуалізм — гэта абсалютнае зло.

Фільм рэжысёра Мэцью Уорхуса па сутнасці спрабуе коротка пераказаць усе этапы дзейнасці LGSM. Пры гэтым вялікі акцэнт робіцца на няпросты шлях пошуку агульнай мовы паміж звычайнымі рабочымі, якім характэрныя гамафобскія забабоны, і прадстаўнікамі субкультуры сэксменшасцяў. Гэта стварае поле для жартаў, якія робяць стужку, што прысвечаная сур'ёзным праблемам, мяркуючы па рэцэнзіях, вельмі прываблівай і цікавай для простага гледача.

Фільм адразу выклікаў рэзананс у брытанскім соцыуме. Карціна пра прыгоды геяў у шахцёрскім краі дапамагла некаторым лепш выхапіць сутнасць тагачасных працэсаў. Газета «Guardian» піша: «Традыцыя — гэта слова, што выклікае кансерватыўныя канатацыі, якое выкарыстоўваецца, каб легітымаваць несправядлівасць. Аднак у Брытаніі ёсць свая традыцыя — калі тыя, каго ігнаруюць, разам пратэстуюць супраць існуючага status quo... Гэты фрагмент нашага менталітэту і адлюстраваў фільм «Pride».

Такая думка, сапраўды, часта сустракаецца на брытанскіх форумах. «Я памятаю, што здарылася з такімі шахцёрскімі гарадкамі ў выніку палітыкі Тэтчэр. Я не маю таленту глыбокага палітычнага аналізу, не ведаю аргументаў, чаму яна і яе ўрад зрабілі гэта. Аднак тое, што яны зрабілі тады, дасюль мае наступствы. Людзі і зараз не вераць паліцыі, згадваючы бойкі 1984 года. Пасля таго, як у людзей забралі працу, у камуны прыйшлі алкаголь і цяжкія наркотыкі. Шмат шахцёрскіх камун ужо нельга адрадзіць. Я маю надзею, што фільм нагадае нам, якая ў нас была сіла, калі мы былі салідарныя, і я спадзяюся, што мы зноў калісьці здабудзем гэтую сілу», — піша адзін з блогераў.

Аднак хапае ў фільма і крытыкаў. Перш за ўсё, на думку некаторых гісторыкаў, фільм няправільна перадае дух таго часу. Гамафобія на пачатку 1980-х была куды больш уласцівая не кансерватыўнаму электарату, а якраз пралетарыям, якія галасавалі за левых і падтрымлівалі прафсаюзы. Не дарма ў брытанскай культуры існуе асобны жанр гісторый, вершаў і песняў пра хлопчыка або дзяўчынку з нетрадыцыйнымі сэксуальнымі забабонамі, якія жывуць у нейкім рабочым гарадку Паўночнай Англіі і адчуваюць на сваёй скуры ўсе праявы бытавой гамафобіі.

Акрамя таго, як адзначае адзін з каментатараў: «Тэтчэр верыла ў свабоду. Яна не збіралася забараняць гей-прайды. Затое яна сапраўды выступала супраць прафсаюзаў, якія кантралявалі эканоміку Вялікабрытаніі для падтрымання зомбі-сектараў. «Любы карпатывізм, нават такі, які практыкуецца ў тых грамадствах, дзе цяжкая праца і супрацоўніцтва высока цэняцца, як, напрыклад у Карэі, перашкаджае асабістай адказнасці, стварае рызыкі, хавае памылкі», — лічыла Тэтчэр».

Некаторыя заклікаюць паконччыць з папулярнай апошнім часам сярод кіношнікаў практыкай дэманізацыі Маргарэт Тэтчэр. «Магчыма, вынікі працы яе ўрадаў былі не лепшыя, аднак ці можна лічыць пазітыўнымі вынікі папярэдніх лейбарысцкіх кабінетаў, калі прафсаюзы з бясконцымі страйкамі тэрарызавалі краіну. Што добрага было ўзімку 1979-га, калі з-за перабояў са светам і цяплом нельга было нават пахаваць нябожчыкаў?» — пытаецца адзін з каментатараў.

Стужка не спадабалася і некаторым удзельнікам таго легендарнага страйку. На іх думку, гэтым фільмам людзей спрабуюць пераканаць, што страйк 1984-га ў гістарычнай перспектыве перамог, аднак у якасці прыкладу перамогі чамусьці дэманструюць рост правоў і свабодаў геяў і лесбіянак.

Наўрад ці зараз можна знайсці баланс думак у дыскусіі вакол фільму «Pride». З іншага боку, адной з задач аўтараў карціны і была ідэя актывізаваць грамадскую думку.

На заканчэнне працытуем блогера пад нікам AdrianBrett: «Я не маю рамантычных ілюзій наконт раману рабочага класу з прадстаўнікамі LGBT. Я працаваў докерам і ведаю, што кажуць працоўныя пра геяў і лексіку, якую яны пры гэтым ужываюць. Гэты фільм — не пра з'яву, а хутчэй пра маленькі інцыдэнт, які сапраўды неяк здарыўся. Аднак у любым выпадку гэта вельмі добрая гісторыя, якая заслугоўвае экранізацыі, паколькі перад намі праява салідарнасці паміж людзьмі, хаця і на вельмі маленькім узроўні».

# Майдан і царква

Алег НОВІКАЎ

**Прэса актыўна каментуе вынікі выбараў новага мітрапаліта Украінскай праваслаўнай царквы (Маскоўскі патрыярхат) і іх уплыў на цяперашні канфлікт ва Украіне.**



Як вядома, Архірэйскі Сабор Украінскай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхату — УПЦ (МП) — абраў новага мітрапаліта замест нябожчыка Уладзіміра. Выбары праходзілі ў надзвычайна палітызаванай атмасферы.

Падчас рэвалюцыі на Майдане са сцэны неаднаразова гучалі заклікі да стварэння адзінай украінскай памеснай царквы. Нагадаем, што цяпер існуе як мінімум чатыры варыяцыі ўкраінскага праваслаўя: Украінская Праваслаўная Царква (Маскоўскі патрыярхат), Украінская Праваслаўная Царква (Кіеўскі патрыярхат), Украінская Праваслаўная Аўтакефальная Царква і Украінскія праваслаўныя Амерыкі. З улікам таго, што большасць украінцаў адносяць сябе да праваслаўных, іх аб'яднанне ў рамках адной канфесіі разглядаецца нацыяналістамі як перадумова сапраўднай аўтаноміі ад Першапрастольнай.

Тым больш, сам грамадскі фон, быццам, як ніколі ў гісторыі спрыяе сцэнару сыходу Кіева з-пад кантролю Масквы. «Настроі ў грамадстве ў адносінах да ўсяго, што хоць неяк звязана з Масквой і «рускім светам», вельмі негатыўныя. Святары УПЦ МП адчуваюць гэта на ўласнай шкуры вельмі добра — ім усё часцей даводзіцца адбівацца ад незаслужаных абвінавачванняў у прыналежнасці да «рускага свету». Ім становіцца вельмі некамфортна жыць на ўласнай зямлі — толькі таму, што за гэтым праславутым «МП» цягнецца шлейф «рускага свету», які стаў для Украіны вайной і трагедыяй. Шмат каму з украінцаў, якія не дасведчаныя ў тонкасцях царкоўнага жыцця, дастаткова даведацца пра тое, што царква «маскоўская», каб нягледзячы на асобы і ўчынкі канкрэтнага верніка або клірыка, абрынуць на яго галаву абвінавачванні ў смерцях, хлусні і бедах», — пісала выданне «Дзеркало тиждня» напярэдадні выбараў новага мітрапаліта.

Нельга не прызнаць факту выбуху антырасійскіх настрояў ва Украіне. Аднак статыстыка сведчыць, што тыя настроі сістэмнай праявы ў царкоўным жыцці не маюць. Паводле афіцыйнай інфармацыі, з пачатку года толькі 10 прыходаў УПЦ (МП) перайшлі пад патранат Кіеўскага Патрыярхату, які аднназначна падтрымаў Майдан.

Нягледзячы на такую сціплую лічбу, у Расіі вельмі перапужаліся за абранне новага кіраўніка УПЦ (МП). Напярэдадні выбараў расійская прэса пісала: «Ва Украінскай Праваслаўнай Царкве Маскоўскага патрыярхату створаны блок аўтакефалістаў, лібералаў, а таксама цэнтральнаўкраінскай групы біскупаў. Гэтая кааліцыя нацэлена на тое, каб любым спосабам адарваць УПЦ ад Маскоўскага Патрыярхату. Для гэтага ім трэба прапхнуць на кафедру кіеўскага мітрапаліта парашэнкаўскага стаўленіка ўладара Сімяона з Вінніцы» («Русская линия»).

Сапраўды, на канале «1+1», які належыць алігарху Каламойскаму, таго Сімяона вельмі піярылі. Акрамя ўсяго, на «1+1» заявілі, што ён — самая лепшая кандыдатура, таму што ў яго няма ніякіх сантыментаў наконт «рускага свету».

Ніякага эфекту гэты піяр не меў. Выбары закончыліся пераканаўчай перамогай партыі цэнтрыстаў. У першы тур выйшлі мітрапаліт Ануфрый, мітрапаліт Барыспальскі і Браварскі Антоній, а таксама мітрапаліт Вінніцкі і Барскі Сімяон. А перамогу атрымаў мітрапаліт Ануфрый.

Нягледзячы на тое, што ніякіх радыкальных заяваў новы мітрапаліт яшчэ не рабіў, большасць украінскай патрыятычнай прэсы лічыць Ануфрыя прамаскоўскай крэатурай. Магчыма, такая выснова звязана з некаторымі фрагментамі біяграфіі новага лідара УПЦ (МП). У студзені 1992 года ён адмовіўся падпісаць зварот архірэйскай нарады Украінскай Праваслаўнай Царквы да патрыярху Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II аб прадастаўленні аўтакефаліі Царкве ва Украіне.

«Ён не тое, каб не ўкраінскі патрыёт, ён, хутчэй, тыповы «русмировец». Ва ўсякім выпадку, мяркуючы па яго інтэрв'ю. «Брацкія народы» — для яго таксама ж дадзенасць, як «бязбожны Захад». І ён зусім не той чалавек, які стане актыўна шукаць шляхі аб'яднання з УПЦ КП», — адзначала газета «Дзень», якая сімпатызуе Майдану.

Яшчэ далей пайшлі журналісты «Дзеркало тиждня», якія лічаць, што Банкаўская (вуліца, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя ўкраінскага прэзідэнта) павінна была выкарыстаць адміністратыўны рэсурс: «Уласна, улада сама вінаватая — чаму не ўмяшалася? Але ж іх прасілі. Настойліва, аж непрыстойна напрошваліся на ўмяшанне. Хаця б так, як гэта было ў сакавіку, калі яшчэ не прэзідэнт Парашэнка прыйшоў на Сабор і непасрэдна паўплываў. Можа, біскупы вось так, у вольным рэжыме, без Адміністрацыі прэзідэнта, Кабміна і СБУ проста не ў стане прыняць адэкватнае рашэнне? Гэта «неўмяшальніцтва» згуляла на руку маскоўскаму начальству або спонсарам-алігархам».

Сапраўды, абранне Ануфрыя прарасійская прэса разглядае як перамогу. Антымайданаўскі інтэрнэт-рэсурс «Politnavigator» піша: «Новаабраны мітрапаліт Кіеўскі Ануфрый пярэчыць уладам — крытыкуе ЕС і заклікае неадкладна спыніць АТА. Незадоўга да свайго абрання ўладыка Ануфрый даў інтэрв'ю прэс-службе УПЦ МП. Аказалася, што, у адрозненне ад уладаў, царква бачыць на Данбасе не «сепаратыстаў, тэрарыстаў, наймітаў», а «праваслаўных апалчэнцаў». І ў гэтым жа інтэрв'ю Ануфрый заявіў: «Еўропа паказвае нам ужо канкрэтны прыклад жыцця без Хрыста. Там не звяртаюць увагу на запаведзі Госпада, на Яго забароны. Наадварот, там усё больш заахвочваецца ўсёдазволенасць».

Аднак хутчэй за ўсё ніякіх радыкальных крокаў ад Ануфрыя не будзе. Не дарма, каб супакоіць грамадскасць, пасля абрання новага лідара УПЦ (МП) нечакана для ўсіх прэс-сакратар царквы заявіў: «Як грамадзяне Украіны мы думаем гэтак жа, як і наш урад і ўся сусветная супольнасць: Крым — гэта тэрыторыя Украіны, і павінен быць вернуты».

Усё сведчыць пра тое, што кіраўніцтва УПЦ (МП) будзе ў дадзенай сітуацыі будзе трымацца нейтралітэту, каб захаваць рэсурсы і паству. Пытанне — ці атрымаецца ў «маскоўскіх папоў» — так на Майдане называюць УПЦ (МП) — ціха перасядзець цяперашнія бурныя часы?

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Януш Корвін-Міке



Лідар польскай партыі «Кангрэс новай правай», які мае імідж мясцовага Жырыноўскага, адчыніў сваю рускамоўную старонку на Facebook, чым шакаваў польскае грамадства. У Польшчы, дзе падтрымліваюць новыя кіеўскія ўлады, такі крок палічылі за акт адкрытай здрады. Першыя пасты блогера, сапраўды, вельмі прарасійскія. Так, Корвін-Міке выказаў падтрымку расійскай версіі збіцця малаазійскага самалёта на Данбасе. Корвін-Міке кажа, што падчас адкрыцця рускамоўнай старонкі ім рухала ідэя пашырыць кансерватыўна-ліберальныя погляды сярод простых расіян. Што тычыцца агентаў Крамля ў Польшчы, то палітык заклікае шукаць іх сярод прыхільнікаў Партыі Зялёных. Зялёных, якія выступаюць супраць развіцця праграмы будаўніцтва АЭС і здабычы ў Польшчы сланцавага газу, на думку Корвіна-Міке, яўна падтрымлівае «Газпрам». Аднак самае цікавае, што выхадку Корвіна-Міке не асудзіла партыя «Права і Справядлівасць» (PiS), якая нервова рэагуе на кожную праяву сімпатыі да Масквы ў польскім грамадстве і палітыкуме. Як лічаць палітолагі, такая дэманстратыўная абыякавасць звязана з намерам PiS у будучым уключыць «Кангрэс новай правай» у сваю ўрадавую кааліцыю.

### Генадзь Зюганаў



Фракцыя лідара расійскіх камуністаў у дзяржаўнай думе распрацавала новы законапраект, які патрабуе вяртання ўрокаў палітінфармацыі. Мяркуецца, што палітінфармацыя будзе праходзіць два разы на тыдзень, і нават патрапіць у спіс прадметаў, па якіх трэба будзе здаваць іспыт. Таксама ў ніжнюю палату ўвосень паступіць прапанова пра абавязковую ваенную падрыхтоўку ў сярэдніх і старэйшых класах. Па меркаванні камуністаў, сцены школьных класаў мае ўпрыгожыць дзяржаўная сімволіка, розныя матэрыялы з гістарычнымі датамі і гучнымі імёнамі, а на пераменах у школе павінен гучаць расійскі гімн. Як не дзіўна, ініцыятыва не знайшла аднагалоснай падтрымкі ў Думе. Так, ліберал-дэмакраты заявілі, што будуць галасаваць супраць праекту КПРФ, паколькі аналагічныя прапановы збіраліся зрабіць яны, а камуністы іх выкралі. А вось «Справядлівая Расія» лічыць, што ніякіх палітінфармацый не трэба. Калі ўвосень атрымаецца прыняць закон аб тым, што педагогі атрымаюць роўныя сацыяльныя льготы з чыноўнікамі, настаўнікі самі навучаць дзяцей любіць дзяржаву без усякіх дадатковых лекцый.

### Юлія Цімашэнка



Лідар урадавай партыі «Батьківщина» нечакана знікла з публічнай прасторы, што нарадзіла шмат чутак і плётак. Злыя языкі кажуць, што яна вырашыла заняцца асабістымі справамі. Гутарка пра тое, каб канчаткова аформіць адносіны з рэгіяналам Нестарам Шуфрычам, раман з якім даўно смакуе ўкраінская жоўтая прэса. Прэса звяртае ўвагу на тое, што не так даўно Цімашэнка і Шуфрыч сінхронна зніклі з Украіны. Больш таго, быццам, на яхце Цімашэнкі, якая курсуе па Міжземным моры, ужо адбылася шлюбная цырымонія. Сведкай з боку нявесты, быццам, была дачка Яўгенія. Праўда, іншыя медыя пішуць, што гэта ўсё люхта. Быццам, у Шуфрыча цяпер новая пасія — лідар ФЕМЕН Аляксандра Шаўчэнка, якая вярнулася ва Украіну пасля доўгай эміграцыі. Іншая версія — Лэдзі Ю бачылі ў Еўропе ў кампаніі з Віктарам Медведчуком, які, будучы кумам Пуціна, прадстаўляе яго інтарэсы ва Украіне. Нарэшце, кажуць, што яе бачылі з Пуціным у Крамлі. Так ці інакш, усе згодныя, што чым бы Юлія ні займалася, гэта ўсё звязана з намерам увосень пачаць атаку на Парашэнку. Дарэчы, сам Парашэнка таксама не сядзіць без справы. Быццам, ён актыўна падбівае Яцэнюка на выхад з партыі «Батьківщина» і стварэнне прапрэзідэнцкай партыі «Патрыёты Украіны».

Успаміны

# Тры гады ў Смаргонях



Арсень ЛІС

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 29, 30**

Барыс Кастаненка першым з нас пачаў друкавацца ў перыёдыцы. Нізку яго вершаў, калі мы былі ўжо ў дзясятым класе, апублікавала абласная газета ў Маладзечне. А на прадвесні 1951-га мяне з Барысам выклікалі на пасяджэнне літаратараў-пачаткоўцаў, што ладзілася пры рэдакцыі абласной газеты. Нашы спробы пяра ўпершыню публічна разглядаў энергічны, малады, у акулярах, выкладчык літаратуры Маладзечанскага настаўніцкага інстытута Мікола Ермаловіч, у будучым вядомы беларускі гісторык, разбуральнік міфаў беларускай гістарычнай навукі савецкага часу. У падзейнай для нас вандроўцы на Маладзечанскае літаб'яднанне мелі мы з Барысам яшчэ адзін прыемны момант — пазнаёміліся з будучым сябрам, родам з суседняй Астравеччыны, Адамам Мальдзісам. У ім ужо і тады, здаецца, угадваўся будучы прафесар. Апрануты ў шляхотную, нетутэйшага крою і фасону ясёнку, з высокай кучаравай чупрынай, а перадусім з велікаватым важкім партфелем, з якога павольна даставаў добры стос сваіх рукапісаў, ён выглядаў даволі самавіта.

* * *

У мой смаргонскі час акрамя Барыса Кастаненкі, з якім зблізкала мяне перш-наперш цікавасць, цяга да літаратуры, блізкім сябрам маім быў яшчэ Юзік Зянкевіч. Ён кватараваў непадалёк ад мяне, на Крывой. Двор Юзікавай гаспадыні ад вуліцы закрывалі высокія шчыльныя, з вертыкальна пастаўленых дошак, вароты. Брукаванае падвор'е выцягнулася мала не да рэчкі і заканчвалася некалькімі яблынямі, дзялянку зямлі пад якімі назваць садам як бы і не выпадала. Сам дом меў працяг гаспадарчымі будынкамі, тыпу гумянца, прасторнай паветкі. У рынкавы дзень у двор да Юзікавай гаспадыні, пажылой, грузнаватай, але яшчэ ўвішнай местачкоўкі, уязджала звычайна дзве-тры фурманкі. У тым ліку наведваўся да сына і Юзікаў бацька, што жыў недзе за Вяллёй.

У рынкавы дзень сядзіба пані Юзэфы выглядала заезным дваром. А сама яна жвавей тупала між наезных: мела да іх быційны інтарэс. У гэты адкрыты для людзей з далейшага свету дом нярэдка заглядаў і хтосьці з судзейскіх работнікаў. Так, не па службовай справе. Балазе акуратны драўляны дамок Смаргонскага правасуддзя знаходзіўся побач, на перакрыжаванні Святлянскай і Крывой вуліц. Няўзнак прапусціўшы ў пані-гаспадыні на кухні кілішак-другі, чалавек у касцюме юрыста любіў шырока паразважаць аб жыцці. Зрэдку, мабыць, з-за сталай звычкі мець перад сабой слухачоў, выходзіў на палавіну хаты, дзе мы з Юзем адраблялі ўрокі. Сябра быў выдатным матэматыкам, а пакансультавацца ў яго я меў іншы раз нагоду. Прэтэнзій да красамоўнага прамоўцы ў нас, зразумела, не было і быць не магло. Яго казанні нам былі цікавыя: гаварыліся бо з натхненнем, артыстычна.

Аднаго разу, з зычлівага падказу адваката (у такой ролі мы яго і ўбачылі ды пачулі ў судзе), я з Юзікам упершыню трапіў на судовы працэс.

Разглядалася справа трагічная. Судзілі жанчыну, якая зарэзала свайго мужа. Пракурор, памоцніца, запрасіў для падсуднай 8 год турмы, хоць называліся якіясьці прычыны, што змяншалі яе правіну. Абвінавачаная ў цяжкім праступку, звычайная вясковая жанчына сярэдняга веку, свой дзікі ўчынак тлумачыла, апраўдвала мужавай здрадай, лайдацтвам.

Праз гадоў дзесяць мне давялося паслухаць у судзе справу простую, зусім не драматычную паводле прадмета разбіральніцтва. Вынес уражанне, што юрыдычная праца, такая важная, неабходная ў жыцці грамадства, мне зусім не цікавая наогул. Можа таму па жыцці я абсалютна абыякавы да дэтэктываў. Але гэта так. Проста, як кажуць, прыйшлося да слова.

Сям'я маіх смаргонскіх гаспадароў Алянцэвічаў, у адрозненне ад Юзікавай гаспадыні, не выяўляла шырэйшых сувязяў са светам. Часам адно прыходзіў да пана Альберта нехта спешна прысланы з электрастанцыі. Здаралася тое часцей зімою. Трэба было аўральна нешта папраўляць на электроўні, і спрактыкаваны майстар, як заўсёды, выручаў ды хутка вяртаўся дахаты.

Гаспадыня ж, звычайна борзда ўправіўшыся з уборкай, у канторы, дзе працавала, ішла яшчэ дапамагчы дзе што зрабіць у доме светара Роўды. Вярнуўшыся да хаты, іншым разам магла расказаць, як было на вячэрні ў царкве, нешта згадаць з мінулага. Аднойчы пад настрой распавяла, як яны з Альбертам бралі шлюб, вянчаліся. Альберт — каталік, але як вернік да касцёла не ўчашчаў, не ведаў некаторых правіл касцёльнага жыцця. Неяк там здарылася, што маладыя прышлі браць шлюб не з раніцы. Пробашч быў катэгарычны. Маўляў, па палудні вянчаць не будзе. Гэта немагчыма, забаронена. Малады стаў прасіць вялебнага. Маўляў, як жа, усё падрыхтавана, людзі запрошаныя. Ксёндз паўтарыў сказанае больш катэгарычным тонам. Тады маладая ўзяла, што называецца, ініцыятыву ў свае рукі.

«Альберт, Бог з ім, з ксяндзом, не прыніжайся. Пойдзем да папа. Ён асвяціць шлюб хоць зараз!..» Так і зрабілі. Тым часам ксёндз-пробашч апынуўся ў далікатным становішчы. Ад касцёла, згодна ўстаноўкі, традыцыі, у такім выпадку адпадала душа. І аб гэтым патрабавалася абвясціць публічна. І здзяйснялася такая акцыя ў пэўны дзень праз абвестку з амбона ў касцёле і адпаведным звонам званоў. Пробашч смаргонскага касцёла споўніў рытуал па «змарлай душы» з суправаджэннем касцельных званоў. Альберт Алянцэвіч, майстар электрастанцыі, у адказ на адлучэнне (анафему) уключаў сірэну падчас набажэнства ў касцёле, бянтэжачы вернікаў яе выццём.

На жончыну згадку даўнейшага пан Альберт толькі паблажліва ўсміхнуўся. Ну, маўляў, паваявалі з пробашчам, але кожны пры сваім застаўся.

А наогул у Алянцэвічаў жылося мне няблага. Яны ніяк не абмяжоўвалі мяне ў маёй юначай самастойнасці. Быў я ў асноўным у апецы бабулі, гаспадынінай маці. Па дамоўленасці з маімі бацькамі яна рыхтавала мне асобна сняданак, абед і вячэру. Працавітая з натуры, паслужыўшы ў чужых людзей, яна рабіла сваё ўмела і ўвішна. Неяк сказала раз, што патрапляла спраўляцца і на кухнях у купцоў, давялося падымацца на гарышчы ў многіх смаргонцаў: праз гады мыла, вешала, сушыла ў людзей бялізну. Адно зірнуўшы на моцныя, дужыя і ў старым веку яе рукі, можна было скеміць, колькі рознай працы пераroблена імі. Негаваркая, ціхмяная днём, нанач бабуля заўсёды гаварыла пацеры, вымаўляючы словы іх нягучна, але выразна. Дома я такога не чуў. Праўда, бацька, вярнуўшыся з польска-нямецкай вайны 1939 года ды з палону, кладучыся спаць, стаў хрысціцца. Маці ж, вырасшы пры старэйшых братах, якія, як сама казала, сышлі ў рэвалюцыю, у Расію, наведвалася ў царкву рэдка, на вялікія святы. З таго рэдкага, з маладзейшых гадоў, побыту ў нашай Ягелонскіх часоў царкве, а пра яе (царквы) старадаўні век захаваліся звесткі ў гістарычных аналах, зрэдзь часу ўспамінала родная словы, памятнага людзям Залескай ваколіцы бацюшкі Касценчыка: «Царква — мятла душы чалавека». Трапнае вобразнае азначэнне без прыдання яму з майго боку ўвагі, надзейна засела ў памяці. Вяртаючыся да яго цяпер, думаецца, што малітва — з'ява псіхалагічна-прэвентыўная. Яна дае верніку боскую помач, абярэг ад ліхога. І ў гэтым, пэўна, яе чалавекаахоўнае значэнне.

* * *

Жывучы тры гады ў Смаргонях, у канцы кожнага тыдня я прыязджаў у роднае Вётхава, да бацькоў. У работу родныя мяне не ўпрагалі. Я моцна хацеў, каб яны не замарудзілі ўступіць у калгас. У Заходняй Беларусі планава, дабравольна-прымусова прайшла калектывізацыя, якая пасля вайны была замарудзілася тут. Гаспадарка-клапатарка селяніна-земляроба змянімізавалася. У канікулярныя часы я хадзіў на калгасны сенакос, на сушку сена. Працягваў тое рабіць і ў студэнцкія гады. Прыехаўшы дамоў, у суботу хадзіў, як і ў дзяцінстве, з бацькам у лазню да Баўтруковых. У Вётхаве на 20 з лішкам хат было пяць лазняў: у Гаварнёвых, Южыкавых, Баўтруковых, Габруковых, Платонавых. Усе, акрамя Гаварнёвых, былі пабудаваны па-над рэчкаю, з якой перад тым, як напаліць лазню, зручна было набіраць бочкі рачной вады. Старыя заядла хвасталіся на палку, кінуўшы на распаленую печку гарнец-другі вады. Здаволена пакрэхвалі. Чулася заахвочанне-просьба: «Язэпка, срачку...»

У перапынку паміж сцёбаннем распаранымі венікамі раптам хтосьці абмовіўся, што на станцыю надвячоркам прыгналі нейкі адмысловы састаў.

«Мусіць, не так сабе гэта», — азваўся на пачутае стары Баўтрук, гаспадар лазні. Назаўтра была якраз нядзеля, можна было ўпэўніцца, нашто некаму спатрэбілася прысылаць той загадкавы цягнік у Залессе. Нараніцу разнеслася чутка — Івана Платонавага з сям'ёй вывозяць. На падвор'і ў Платонавых энкавэдзісты нікога не пускаюць. Замужнія дочкі Платоніхі хацелі забраць маці. Колькі там старэнькая пажыла з Іванам? Гады два, як ён вярнуўся, і цяпер звязуць невядома куды паміраць... Івана дзесяць гадоў не было дома. Як забралі ў войска, калі немцы напалі на Польшчу ўвосень 1939-га, дык да сорак дзевятага не было чуваць, дзе дзеўся.

А Іван Платонаў тым часам, як і шмат з заходніх беларусаў, паспеў нядоўга паваяваць на польска-нямецкім фронце, пабыць у савецкім палоне, з яго, як колішні польскі грамадзянін, трапіць у польскае войска, што фарміравалася Сікорскім у Савецкім саюзе, і яшчэ раз пазмагацца супраць немцаў, але ўжо на італьянскай зямлі, пад Монтэ-Касіна. Такой доўгай сталася дарога простага беларускага хлопца дадому. Дома ж пабыў, як у гасцях. Не паспеў і агледзецца. Вясной 1951 года павезлі ў Сібір, казалі, сем'яў дзесяць адно са Смаргоншчыны трапілі тады на вывазы. Усёведнае ведамства прэвентыўна засцерагала савецкае грамадства ад усялякіх магчымых і немагчымых, уяўных уплываў на яго.

Перад маімі вачыма, што называецца, калі вучыўся ў Смаргонях, прайшла яшчэ адна, і то большая, чым з сям'ёю Івана Платонавага, сумна-драматычная гісторыя. Закранала яна непасрэдна і наш 9 «В» клас.

З 1949 на 1950 год, недзе перад новым годам, пачулася, што нехім расклеены па горадзе набраныя на друкарцы афішкі. Казалі, што бачылі іх нават на дзвярах райкама. У той час якраз адзначалася 70-годдзе народзінаў Сталіна, а ў афішках тых нешта зусім непашанотна пісалася пра правадыра. Мала каму тую папяровую крамолу бачыць даводзілася. Пагаварылі і сціхлі.

Аднак праз нейкі час штосьці да чаго з тымі афішкамі высветлілася.

Аднаго дня падчас заняткаў да нас у клас зайшоў дырэктар і выклікаў вучня Карнея.

Прыкметна старэйшы за нас, грузнаваты здаравяка, сын каваля дзесь з-за Вяллі, ён раптам змяніўся з твару, збялеў.

А неўзабаве можна было заўважыць, як выклікаў паўз вокны нашага класа некуды павялі два вайскоўцы. Потым з сумежнага дзявятага класа зніклі вучні Сташкевіч і Іваноўскі. Не паказалася больш у школе некалькі вучняў і з іншых класаў. Нам між тым ніхто нічога не тлумачыў.

Толькі праз пэўны час даведаліся, што падполле з вучняў у нас арганізаваў старшакласнік Расціслаў Лапіцкі, які перавёўся ў дзясяты клас Смаргонскай школы аднекуль з-пад Нарачы. Разы два навічок, борздамоўны, танклявы, высокі, паказаўся быў і ў нашым класе. Мы думалі, што



Арсень Ліс і яго 10-ы клас

ён зацікавіўся Верай Заблоцкай. Была Вера пагляднай, рослай, паспяховай у вучобе дзяўчынай. Аказваецца, у Лапіцкага быў у нашым, як і ў іншых класах, свой адпаведны інтарэс.

Невядома, ці мелі Смаргонскія падпольнікі нейкую сур'ёзную грамадзянскую праграму, як тое было ў патайных маладзёвых беларускіх асяродках, узніклых пасля вайны ў Паставах, Слоніме, Наваградку.

Нехта казаў: «Смаркачы, у палітыку палезлі». Нехта спагадаў маладзёнам, недаросльм. Нехта паціскаў плячыма...

Сам жа я, як помніцца, успрыняў тую неардынарную сітуацыю ў школе неўразумела, адстаронена. Не таму, што быў перакананы ў рацыі, праваце афіцыйнага існага. Проста ў свае пятнаццаць год не мог належна асэнсоўваць рэальнае жыццё і яго палітычны кантэкст. Каб аналітычна ўспрымаць свет, крытычна думаць, патрэбен жыццёвы досвед, які прыходзіць з гадамі. А тады органамі бяспекі былі хутка «разматаны» смаргонскія канспіратары. Праз нейкі час у Маладзечне ваенны суд адмераў ім, як тады было прынята ў савецкім правасуддзі, вялікія тэрміны зняволення. Лапіцкага расстралялі. Адзін з асуджаных тады аднакласнікаў Тадэвуш Хацілоўскі, вярнуўшыся з высылкі, казаў, што атрымаў восем год толькі за тое, што ведаў пра змоўнікаў, але не данёс. І, пэўна, праўда тое, бо меўся ў судовым кодэксе такі артыкул. Іншая рэч — наколькі праўна, законна такое ў цывілізаваным грамадстве.

* * *

З далечыні часу бачу, што мая ранняя адлучанасць ад дому, юначая самастойнасць мела і адмоўныя бакі.

Не тое, што без штодзённай бацькоўскай апекі паддаўся нейкім уласцівым пераходнаму ўзросту спакусам. Урэшце іх бы і не было ў той скупаваты паваенны час. Рана пачатае курэнне, поцяг да чаркі, уляганне за дзяўчатамі мне не пагражалі. Адно, што падвяло, — бескантрольнае, запойнае начное чытанне. Падрыхтуеш, бывала, урокі, нарашаешся задач — і адразу за кнігу. Прыйшло ў няспелую галаву, што мушу прачытаць усё новае, што толькі з'явілася ў літаратуры, беларускай і рускай. Пачаў з «Белай бярозы» Бубянцова, «Маладой гвардыі» Фадзеева, «Аповесці аб сапраўдным чалавеку» Палявога, «Далёка ад Масквы» Ажаева, «Святло над зямлёй» Бабаеўскага, «Алітэт зыходзіць у горы» Сёмушкіна і іншых, «Святло над Ліпскам» Макара Паслядовіча, «Зары насустрач» Іллі Гурскага, «Станаўленне» Усевалада Краўчанкі.

Мае гаспадары, спадарства Алянцэвічаў, даўно спяць, а я ў сваім пакоі сам сабе гаспадар, а другой гадзіне чытаю «Чацвёртую вышыню» Ільіной. І раптам абвалам — шум у вушах, аж гудзе. Выключыў святло, схаваўся пад коўдру. Але і праз гады: толькі сцішышся — і «шум баравы» пры табе. Дома маці ніколі б не дазволіла запойна чытаць. «Тушы лямпу і зараз жа кладзіся. Заўтра будзеш чытаць тое, што накупляў», — загадвала звычайна. Блазнавата працаваў хлапчына на будую гіпертанію.

На тым прыкрасці таго году ў мяне не скончыліся. Не ведаю, з чым быў звязаны нечаканы візіт у Смаргоні высокай асветнай асобы. Прыехаў сам міністр асветы рэспублікі Платон Савіч. Чаму адразу запомнілася на гады яго імя-прозвішча, раскажу пазней. Было тое зімой. Раённае начальства вырашыла зладзіць высокаму госцю належны прыём. Арганізавалі нешта накшталт мітынгу школьнікаў перад сядзібай райкама. Помніцца, навокал невялікай плошчы перад райкамам гурбы снегу. Перад сабранымі з непакрытай галавой каротка прамаўляў немалады, паважнага выгляду мужчына. Досыць хутка нам дазволілі разысціся, ісці дамоў. Абуты ў цесныя, пашытыя мясцовым залескім шаўцом, боты, я моцна змёрз у ногі. Доўга не мог адбіцца ад прастуды, глытаў чырвоны аспірын, які, казалі, у свеце даўно быў прызнаны нягодным для лячэння, шкодным. У нас на той час іншага не было. Толькі ўвесну, ужо дома, з матчынай успамогай ды добрым прагрэвам на сонцапёку здолеў прытушыць той танзіліт. Але дарам тая прастуджанасць не прайшла. Летам заўважыў, а ўжо быў неблагім плаўцом, што праз нейкіх дзесяць метраў на хвалях сэрца пачынае моцна біцца, перашкаджае плыць, такі «куснуў» яго лёгкі наскок рэўматызму.

З ранніх гадоў у чалавека і па яго ўласнай віне, недасведчанасці аб'ектыўнаназбіраецца рознага. Згадваецца лірычна-роздумнае выказванне Якуба Коласа, жаданне паэта «сабраць з дарог камені тыя, што губяць сілы маладыя, к вясне сваёй хацеў б вярнуцца». На жаль, вярнуцца к вясне жыцця можна толькі ў думках. А што да ад сябе незалежных прычын нейкіх ранніх жыццёвых страт, то іх, калі ўдумацца, таксама набіраецца нямала. Пра тое, што хочацца сказаць, пісалася ў друку. Але і без чыёйсьці падказкі не раз думалася аб няўдалай уніфікацыі сярэдняй адукацыі ў савецкі час. Закрылі класічныя гімназіі, у якіх акрамя французскай, нямецкай вывучалася і мова антычнага свету. Ва ўсякім разе даваліся асновы для спасціжэння антычнай цывілізацыі. То ж бо менавіта старажытным грэкам і рымлянам абавязана сучасная Еўропа закладзінамі падвалін сваіх цывілізацыі, культуры. Не, такі ў той дурной царскай Расіі, як і ўва ўсім свеце, быў разумны роўна падзел сярэдняй адукацыі на гімназію і рэальнае вучылішча. Хто цікавіўся гуманітарнай адукацыяй, а галоўнае — ад прыроды быў больш схільны, здольны да яе, мог праставаць у класічную гімназію. А той, хто хацеў, стаць інжынерам, тэхнолагам адмыслоўцам тэхнічных спецыяльнасцяў, натуральна, выбіраў рэальнае вучылішча, з яго пашыраным курсам урокаў матэматыкі, фізікі, хіміі. А будучаму настаўніку мовы, літаратуры, гісторыі не трэба было мазоліць глузды, зубрычы павышаныя курсы фізіка-матэматычных прадметаў, а мецъ магчымасць засвоіць веды па гісторыі мастацтва, культуры ды па тых жа замежных мовах. Не ведаю, як цяпер скарэгавана



Сябры юнацтва: Юзік Зянкевіч, Зыфрыд Суравец — курсанты Вольскай авіяцыйнай вучэльні



Праз пэўны час даведаліся, што падполле з вучняў у нас арганізаваў старшакласнік Расціслаў Лапіцкі, які перавёўся ў дзясяты клас смаргонскай школы аднекуль з-пад Нарачы



Праз гады і гады. Барыс Кастэнка, сябра Арсеня Ліса па школьным паэтычным гуртку

сярэдняя адукацыя. Вярнуліся ж да гімназіяў, прагімназіяй, каледжаў.

Недаўменна ўспамінаць, што нам у сярэдняй школе не далі хоць бы элементарнага ўяўлення аб заходнееўрапейскай мастацкай літаратуры. Мне гэта запытальна мільганула, калі на філфаку ўніверсітэта мы галопам праходзілі абшырны курс сусветнай літаратуры. А можна ж было загадзя пачытаць нешта і з Байрана, і з Гюго, і з Бальзака раней, у школьныя гады. Я ж улягаў адно ў айчынную літаратуру.

Была неблагая, шырока закроеная агульная праграма школьнай асветы ў краіне. Прынамсі, акрамя гуманітарных, фізіка-матэматычных, прыродазнаўчых прадметаў у старшых класах сярэдняй школы нам выкладалі астраномію, логіку, анатомію і фізіялогію чалавека. Але як выкладаліся гэтыя апошнія тры прадметы? Не было па іх настаўніка-спецыялістаў. Некаму з педагогаў даручалі гэтыя прадметы як нагрузку ў дадатак да іх уласных, у якіх яны былі адмысловцамі.

А раскрыць школьнікам неабсяжны зманлівы касмічны свет настаўніку, які сам не вывучаў яго спецыяльна, не спасціг яго высокай гармоніі, ідзецца пра астраномію, практычна нельга.

А, праходзячы анатомію і фізіялогію чалавека ў восьмым класе, чаму б як засцярогу на будучыню не даць факультатыўна мінімальных ведаў аб здароўі чалавека? Колькі б элементарнага недагляду можна было пазбегнуць, ад якой гары бедаў засцерагчы ў маладым веку на ўсё жыццё.

Вясной 1951 года заканчвалася маё навучанне, бытаванне ў Смаргонях. Задумваліся, вырашалі з сябрамі, куды шагнуць далей. Выбіралі, здавалася, самае сваё. Але былі мала свядомыя жыццёвай перспектывы ўласнага выбару. Ды час прыспешваў выбіраць. Рабілі тое без аглядкі, кожны па-свойму.

Бора Кастаненка, вырасшы ў Віцебску, на вялікай рацэ, пэўна з дзяцінства палонены морам, вырашаў даўно вынашаную мару. Пасля сямі класаў ужо быў памкнуўся ў Калінінградскую марскую вучэльню. Тады нешта не задалося. Цяпер з атэстатам сталасці ды з залатым медалём браў курс на Ленінградскую мараходку. У душы лучыў паэзію марской стыхіі з паэзіяй літаратурнай. І тое здавалася шчасцем. Наш сябра літгуртковец Лёня Сосна выбіраў горнарудны інстытут у Крывым Розе. Матэматычныя здольнасці наважыўся зрэалізаваць у інжынеры. Ігара Федаровіча, у хаце бацькоў якога на вуліцы Крэўскай мы часам збіраліся пагаманіць, неяк знянацку апанавала мара пра неба. Убачыў чалавека рослага, гожага, вясёлага, што лёгка, як на крылах, у форме лётчыка крочыў па Крэўскай, і думкай памкнуўся ўслед яму.

Зыфрыд, Зыфка Суравец скептычна паставіўся да маёй арыентацыі на БДУ. Кіславата ўсміхнуўся: маўляў, цывілка. Сам выбіраў авіяцыю. Ды не толькі ён, бальшыня нашых хлопцаў-аднакласнікаў. Праўда, не ўсе яны былі абсалютна вольныя ў сваім выбары. Каму стукнула дзевятнаццаць, таму давялося паслухаць парады ў ваенкамаце. «Дапрызыўны ўзрост, у канцы лета забяром у армію. Паступайце ў ваеннае вучылішча, выбар вялікі. А галоўнае — праз два гады будзеце афіцэрамі. Далей — поле шырокае...»

Мой бліжэйшы сябра Юзік Зянкевіч, аднакласнік Жорка Лазар, Толік Сакалоўскі, Зыфка Суравец, згодна наказу ваенкома, падаліся хто ў вайсковую, а хто ў грамадзянскую авіяцыю. Праўда, не сталі лётчыкамі, вучыліся на тэхнікаў па самалётах. Праз некалькі месяцаў я ўжо атрымаў быў з горада Вольска на Волзе ліст ад Зянкевіча і фотаздымак яго з сябрам на пару. Форма ім, маладым курсантам, пасавала — страйніла хлопцаў. Дзякуючы за фота, я, праціўны, не праміную, каб не кальнуць Зыфку, паразважаў пра казарму як спецыфічную прастору для разгарнення духу чалавека. Выпускны вечар свой мы ладзілі энтузіястычна, дружна. Рыхтавалі прадстаўленне. З ініцыятывы Веры Заблоцкай ды з яе дзейсным удзелам падрыхтавалі спектакль. І не па якой-небудзь там п'есцы-аднаактоўцы, а замахнуліся на класіку.

І здзейснілі тое не сціпленька на школьнай сцэне, а ў раённым клубе. Неяк удалося досыць умела разгарнуць смяшліва-сур'ёзную дзею Купалавай «Паўлінкі». Нечакана для саміх сябе заразілі глядацкую публіку каларытнай мовай, дасціпнымі рэплікамі Купалавых вобразаў. Нейкі час іх са смакам паўтаралі школьнікі-гледачы. Нашы педагогі былі здаволеныя. Здаецца, нават не чакалі ад нас такога тэатральнага спрыту. Світаннем, шчаслівa стомленыя, мы разыходзіліся па дамах.

* * *

Заканчваліся мае тры смаргонскія гады. Калі глядзіш на іх з аддалі часу, то не скажаш, што яны дадалі шмат духоўнай моцы юнай галаве, сэрцу. Прачытаў, канешне ж, акрамя той паточнай для свайго часу літаратуры, пазнаў і нешта больш важнае, істотнае. Прынамсі, з класічнай літаратуры. Купіў выдадзеную ў дзвюх кнігах «Вайну і мір» Льва Талстога, прачытаў «Ціхі Дон» Міхаіла Шолахава. Адчуў нешта існае для сябе, асэнсаванае не адразу, у паэзіі Тараса Шаўчэнкі. Душэўна закрануў Някрасаў.

Але адно, што паўней далі тры гады, мой смаргонскі час, дык гэта перадусім глыбейшае пазнанне беларускай літаратуры, роднага слова. Сталася тое дзякуючы на падсвядомым узроўні цязе да беларускага мастацкага слова. Асягненне ж яго здабыткаў праз «ЛіМ», «Полымя», кніжкі сучасных паэтаў, пісьменнікаў, засваенне беларускай літаратурнай спадчыны першай чвэрці XX ст., сабранай у «Хрэстаматыі» Ігната Дварчаніна арыентавалі на выбар беларускай філалогіі як лёсу.

Калі старэйшаму свайму на восем год брацанніку Генадзю Сідаровічу, які вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, а з 1944 года прайшоў з баямі ад Варшавы да Берліна, я сказаў, што выбіраю ўніверсітэт, беларускую філалогію, пачуў ад яго асцярожнае: «Ці лёгка будзе сёння твая дарога з беларускім словам?» Адказаў яму ўпэўнена ў сваім выбары: «А калі з нашым словам было лягчэй?»

Мой жыццёва дасведчаны брат, пяць год праслужыўшы пасля перамогі ў акупацыйных войсках у Германіі, цяпер настаўнік смаргонскай школы, не сказаў мне на тое нічога.

Не меў пераканаўчых аргументаў, каб пярэчыць? Палічыў пярэчанне бессэнсоўным, дарэмным? Не ведаю. Але больш да тэмы жыццёвага выбару мы з ім не вярталіся.

# Каго заманіла Вікіманія?

Васіль КІСЛЯК

**У жніўні ў Лондане адбыўся сусветны форум рэдактараў Вікіпедыі і сумежных праектаў — Вікіманія–2014. Мы ўзялі эксклюзіўнае інтэрв'ю ў Вольгі Сітнік, адміністратара беларускага раздзела Вікіпедыі, якой пашчасціла акунуцца ў эпіцэнтр гэтай насычанай яскравымі момантамі падзеі.**

***— Спадарыня Вольга, якія агульныя ўражанні засталіся ад канферэнцыі?***

— Гэтая Вікіманія сталася юбілейнай. Канферэнцыя праводзіцца кожны год, і кожны раз — у новым месцы. 10-я Вікіманія сабрала каля 2000 чалавек з 68 краін. Беларусь прадстаўляла я адна, таму мая місія была дастаткова адказнай і важкай.

Мерапрыемства праходзіла ў дзелавым цэнтры Барбікан, у самым сэрцы лонданскага Сіці, літаральна побач з сусветна вядомым Саборам Святога Паўла. Арганізатары мерапрыемства добрасумленна паклапаціліся дзеля забеспячэння максімальна эфектыўнай працы і супрацы ўсіх удзельнікаў: шмат утульных памяшканняў, выдатная інтэрнэт-сувязь, камфартабельныя нумары ў гатэлі. У вольны ж час гасцей Вікіманіі забаўляў сам Лондан — цудоўны горад, у якім шмат чаго прыдумана для зручнасці жыхароў і турыстаў.

Прыемна заўважаць, што іншыя ўдзельнікі Вікіманіі ведаюць не толькі Беларусь, але і наш раздзел Вікіпедыі, такім чынам нашы вялікія намаганні не мінаюць дарма, а дапамагаюць рабіць беларускую культуру і мову больш папулярнымі.

Я прымаю ўдзел у праектах Фонду Вікімедыя ўжо 5 гадоў, і таму мае наведванне Вікіманіі — гэта ў першую чаргу магчымасць сустрэцца з людзьмі, якія апантаныя аднолькавымі са мной ідэямі і памкненнямі. На падобных форумах можна пабачыць тварам да твару старых сяброў, пазнаёміцца з новымі, прааналізаваць вынікі, абмеркаваць бягучыя падзеі і пазначыць планы нашай супрацы ў будучыні.



**Даведка:**

Вольга Сітнік, 31 год, адміністратар і даглядчык беларускага раздзелу Вікіпедыі. Нарадзілася і вырасла ў Слуцку, замужам, выхоўвае дачку Гануську. Аддае перавагу тэматыцы, звязанай з Беларуссю. Стварыла шмат артыкулаў пра гісторыю і культуру Беларусі, вядомых асобаў краіны, помнікі архітэктуры, жывёльны і раслінны свет. Акрамя Вікіпедыі працуе ў сумежных праектах: Вікікрыніцы (арыгінальныя тэксты) і ВікіСховішча (фотаздымкі, аўдыё і відэа).

***— Як праходзіла мерапрыемства, якія секцыі прыцягнулі вашу ўвагу?***

— Самай важнай сустрэчай канферэнцыі для мяне стаў незвычайны ланч, на які запрасілі ўсіх дзяўчат і жанчын, што прыехалі на Вікіманію. На Вікі-вімэнз-ланчы мы абменьваліся ўражаннямі наконт міжгендарных зносін, распрацаванасці каляжаночых тэматык, магутнасці разрыву паміж колькасцю мужчын і жанчын у Вікі-праектах. Было прадстаўлена грунтоўнае навуковае даследаванне з мэтай вызначыць, як удзел жанчын у праектах Вікімедыя ўплывае на самыя розныя аспекты супрацы: ад выбару тэм для рэдагавання да эмацыйных зносінаў паміж удзельнікамі.

Карысным і перспектыўным я лічу наладжванне сувязяў паміж Беларускай Вікіпедыяй і іншымі праектамі на славянскіх мовах. Была арганізавана спецыяльная сустрэча рэдактараў Вікіпедый Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, дзе абмяркоўваліся агульныя для рэгіёна пытанні і праблемы.

Асабіста ў мяне адбыліся цікавыя размовы з прадстаўнікамі Польскай, Рускай і Украінскай Вікіпедый. Зразумела, не ўсе сустрэчы былі афіцыйнымі, бо кожны момант Вікіманіі дае шмат карыснага кожнаму з гасцей.



Удзельнікі Вікіманіі–2014

***— Якія ідэі і напрацоўкі вам падаліся прыдатнымі для рэалізацыі ў беларускім Вікі-руху?***

— Самы ўражальны праект, пра які я даведалася на Вікіманіі, — гэта дзіцячы лагер, зладжаны армянскімі вікіпедыстамі. Падлеткі ў ім кожны дзень па некалькі гадзін працуюць на карысць Вікіпедыі. На жаль, беларусы пакуль не маюць такіх рэсурсаў, але ідэя шыкоўная.

***— У чым адметнасць беларускай Вікіпедыі ў параўнанні з развіццём праекта ў нашых бліжэйшых суседзяў?***

— У Беларускай Вікіпедыі даволі высокая эфектыўнасць працы кожнага з рэдактараў у энцыклапедычнай плыні, але пакуль дастаткова нізкая сацыяльная актыўнасць. У параўнанні з суседзямі можна сказаць, што нашы ўдзельнікі больш схільныя сядзець дома і працаваць над артыкуламі, чым сустракацца і ладзіць нават эпізадычныя праекты з жывымі людзьмі.

Важным накірункам абмеркаванняў 10-й Вікіманіі была тэма супрацоўніцтва праектаў Фонду Вікімедыя з прадстаўнікамі іншых рухаў і арганізацый, якія працуюць у галіне вольных ведаў, свабодных ліцэнзій і размеркаванага кіравання дадзенымі, ініцыятывамі і фінансамі. Да таго ж яшчэ з мінулых гадоў добра развіваюцца зносіны паміж вікіпедыстамі ўсяго свету і людзьмі, якія працуюць у музеях, архівах, бібліятэках і іншых падобных установах, прычым вельмі часта ініцыятыва паходзіць якраз ад урадавых і прыватных арганізацый, таму што гэта і дапамога валанцёраў, і добрая інфармацыйная падстава для згадвання ў СМІ, і рэалізацыя жадання адпавядаць патрабаванням лічбавай эпохі.

Што тычыцца беларускіх рэалій, то нават калі мы выходзім на кантакт, адказу не атрымліваем, хаця здараюцца і прыемныя выключэнні. Шкада, што часам энтузіязм музейных супрацоўнікаў сціхае, як толькі экспанаты расстаўленыя па паліцах, у той час, як са справаздач дакладчыкаў Вікіманіі добра відаць, што наладжванне экспазіцыі — гэта самае малое, што можа зрабіць музей для папулярызацыі сваіх калекцый.

***— Ці можа звычайны чалавек трапіць на наступную Вікіманію?***

— Канешне. Гэта зусім не складана. Чарговая Вікіманія будзе праводзіцца ў Мехіка, сталіцы Мексікі. Туды запрашаюць кожнага рэдактара Вікіпедыі. А стаць удзельнікам — двойчы элементарна: трэба проста націснуць кнопку «Правіць» на любой старонцы.

**Даведка**

Колькасць актыўных удзельнікаў Беларускай Вікіпедыі складае 200 чалавек. 30 даглядчыкаў і 9 адміністратараў сочаць, каб артыкулы былі аб'ектыўнымі і карэктна аформленымі, каб паміж удзельнікаў не ўзнікала канфліктаў і панавала супрацоўніцтва.

Беларускамоўны раздзел стала працуе са жніўня 2004 года, па колькасці створаных артыкулаў (амаль 75 тысяч) сёння ён займае 57-е месца сярод 287 іншых Вікіпедый свету. Акрамя Беларускай Вікіпедыі на афіцыйным правапісе існуе беларускамоўны раздзел на класічным правапісе (тарашкевіца) — 66-е месца ў спісе. Трэба зазначыць, што пераважна артыкулы на тарашкевіцы больш поўныя і грунтоўныя.

# «Навучы сябра размаўляць па-беларуску»

**«Распавядзіце, як вы пачалі размаўляць па-беларуску ці прыахвоцілі да беларушчыны сябра — і атрымайце карысныя падарункі», — гаворыцца ў прэсавым рэлізе кампаніі, якую распачынае «Мова ці кава».**

Ініцыятыва «Мова ці кава» абвяшчае пра пачатак кампаніі «Навучы сябра размаўляць па-беларуску», якая адбываецца пад эгідай кампаніі «Зробім лепш» Асамблеі НДА.

Паводле ініцыятараў, кампанія скіраваная на пераадоленне страху, псіхалагічных бар'ераў, папулярызацыю ідэі размаўляць па-беларуску і дэпалітызацыю моўнага пытання.

Усім ахвотным і неабыякавым прапануецца ўзяць шэфства хоць бы над адным сваім рускамоўным сябрам і навучыць яго размаўляць па-беларуску: «Гэта можа быць, напрыклад, ваш добры знаёмы ці сябра дзяцінства, брат, сястра, тата, бабуля ці чалавек, якога вы сустрэлі ўчора ў тралейбусе і які не мае нічога супольнага з беларушчынай. Чалавек, які вывучыў беларускую мову, адкрывае для сябе новы свет: новую музыку, новыя кнігі, новае кола зносінаў».

У межах кампаніі стартуе конкурс. Ахвотным прапануецца распавесці пра свой уласны досвед пераходу на беларускую мову або пра тое, як да гэтага прыйшлі знаёмыя ці сваякі. Публікаваць свае гісторыі можна ў суполках «Мовы ці кавы» УКантакце ці ў Фэйсбуку.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1120

Падпісана да друку 22.08.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.